



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

17 ЛІПЕНЯ 1998 Г. № 29/3957 КОШТ 4 000 РУБ.








# Разьба сярод пацех

Калі ўважліва прыгледзецца да дрэва, то кожнаму, хто надзелены эстэтычнай фантазіяй, яно нагадае чалавека. Паэтычнае ж бачанне свету падказала, што бярозка падобна на дзяўчыну, а дуб — на магута, які ўладарна азірае прасторы, над якімі ўзвышаецца яго кучаравая галава. Ці не таму наш далёкі продак пачаў пакланяцца дрэву, просячы сабе гэткай жа сілы і прыгажосці?

Больш таго, з незапомных часоў насельнік Зямлі заўважыў, што дрэва валодае жыццядайнымі сіламі — грэе, абувае-апранае, корміць, нясе з сабой і ў сабе пекнату. З дрэвам звязаны яго першыя крокі ў жыцці, з ім жа — і апошнія.

Спасцігаючы хараство жыцця,назіральны продак заўважыў, што дрэва — мяккі, падатлівы матэрыял. І, пэўна, юнак, абагаўляючы жанчыну, аднойчы ў кавалку зламанага бурай дрэва ўбачыў падабенства з той, што была сэрцу любай. І тады ён вострым сколам крэмню пачаў саскрабаць лішнюю драўніну, набліжаючы аддаленае падабенства зыходнага матэрыялу да арыгінала...

Калі і хто першым пачаў займацца разьбой па дрэве, сёння ніхто дакладна не скажа. Ды не дай нам, Божа, стаць сведкамі поўнага занядбання аднаго з найстаражытнейшых заняткаў чалавека — разьбы па дрэве! І, як паказвае жыццё, асаблівых падстаў для заўчаснага адпявання народнага рамяства ў нас няма.

*(Праця́г на стар. 2)*

## ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***Зборная Францыі па футболе — апошні ў XX стагоддзі чэмпіён свету. Як святкавалі перамогу французы, мы бачылі на тэлеэкране. Пакуль такія фэсты — не для нас. Адна з прычым — эканамічная: пры заробку ў некалькі мільёнаў "зайцоў" немагчыма выхаваць каманду сусветнага класа. Другая па-за межамі матэрыяльнага. У сённяшніх умовах, скажам шчыра, вельмі цяжка быць беларускім патрыётам і свядома змагацца на спартовым полі за прэстыж дзяржавы.***

### ПАРАДОКС ТЫДНЯ

130 беларускіх чыноўнікаў самага рознага рангу, згодна рашэнню Еўрасавета не атрымаюць цяпер уязныя візы ў шэраг еўрапейскіх краін. Астатніх грамадзян краіны візавыя санкцыі не датычаць. Парадокс: просты грамадзянін, чалавек паспаліты мае прывілею, якой няма ў "слуг народа"! Ведаючы натуру беларускай улады, можна меркаваць, што яна рана ці позна зробіць захады, каб ліквідаваць гэты "нонсенс", каб у краіне, дзе невыезны прэзідэнт, і грамадзяне былі невыезнымі.

### ЗАНЕПАКОЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

"Наша Ніва" за 13 ліпеня перадрукавала з маскоўскай газеты "Коммерсантъ-власть" артыкул "Варшаўская змова" (аўтар — Віктар Калашнікаў). Гэта развагі пра кнігу польскага прафесара Ежы Клачкоўскага "Гісторыя Цэнтральнай і Усходняй Еўропы", што рыхтуецца да выдання ў Любліне і Парыжы. У Польшчы гэту кнігу ўжо актыўна абмяркоўваюць, цытуюць, рэкламуюць. У сваёй "Гісторыі..." сп. Клачкоўскі даводзіць, што на працягу стагоддзяў у рэгіёне ад Балтыйскага да Чорнага мораў існаваў адмысловы тып цэнтральнаеўрапейскай цывілізацыі, формаю існавання якой была свабодная канфедэрацыя палякаў, летувісаў, беларусаў, украінцаў, немцаў Усходняй Прусіі і габрэяў. Гэта канфедэрацыя (Рэч Паспалітая) прынцыпова адрознівалася ад абсалютысцкіх рэжымаў Расіі і Прусіі. У канфедэрацыі адбываліся працэсы, падобныя да тых, што сёння ідуць у Еўрасаюзе. Расійскі аўтар мяркуе, што, паколькі (па словах прафесара Клачкоўскага) прэзідэнт Польшчы Аляксандр Кваснеўскі фармуе сваю палітыку, маючы за прыклад менавіта Рэч Паспалітую, ёсць рэальная пагроза расійскім інтарэсам у рэгіёне. Сп. Калашнікаў спрашчае і драматызуе гісторыю, каб выклікаць у расійскага чытача пачуццё небяспекі з боку Польшчы, як патэнцыяльнага лідэра новай супольнасці народаў — адроджанай Рэчы Паспалітай. Пры гэтым ён ва ўскоснай форме прызнае, што ў Расіі няма ідэі, якая б магла гарантавана ўтрымаць ля Масквы Беларусь, Украіну, Малдову, Латвію, Летуву.

### ЗАБАРОНА ТЫДНЯ

11 ліпеня не адбылося запланаванага на гэты дзень фестывалю цяжкой рок-музыкі "Extremum-98". А меўся адбыцца ён у Мінскім парку Чэлюскінцаў. На фестываль былі запрошаны беларускія, польскія і расійскія гурты. Папярэдне было прададзена 1 500 квіткоў, а ўсяго чакалася больш за 4000 слухачоў. Забараніў фэст Дзяржкамітэт па справах моладзі, спаслаўшыся на "экспертаў" Дзяржкамітэта па справах рэлігій. "Эксперты" мяркуюць, што запрошаныя гурты маюць "демонический характер". Цікава, як успрынялі б святары і таварышы з Дзяржкамітэта па справах рэлігій, калі б спецыялісты па metal rock палезлі "са сваім статутам у чужы манастыр", у справы царквы?

### ПАРАЛЕЛЬ ТЫДНЯ

"Белорусская газета" 13 ліпеня надрукавала артыкул Любові Ляўшук "В церковь не ходят строем". Журналістка адзначае, што тая акалічнасць, што Праваслаўе сёння стала фактычна дзяржаўнай рэлігіяй РБ, ніякім чынам не змяніла той тэндэнцыі, што вызначылася значна раней: актыўны рост пратэстанцкіх абшчын і нехрысціянскіх дэнамінацый. Аўтар лічыць гэта нармальнай рэакцыяй на зрастанне царквы з дзяржавай. Прыблізна тое ж адбываецца ў Польшчы, дзе фактычна статус дзяржаўнай рэлігіі мае Касцёл. Дарэчы, сам пратэстантызм нарадзіўся з пратэсту вернікаў супраць, так бы мовіць, "бюракратызацыі" Ватыкана, ператварэння рыма-каталіцкай царквы з духоўнага асяродку ў палітычна-камерцыйную структуру.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Зноў, як і ў сталінскія часіны, пагаворваюць пра славянскае адзінства. Звужанае, праўда, да ўсходнеславянскага. І нават да няпоўнага ўсходнеславянскага — да салідарнасці з Беларуссю. Украіна, натуральна, да салідарнасці не дарасла.

Відавочна, што нацыянальныя інтарэсы Расіі заключаюцца ў тым, каб стаць раўнапраўным членам супольнасці цывілізаваных нацый, гэта значыць тых, хто фармуе, зберагае, абараняе і распаўсюджвае фундаментальныя каштоўнасці іудэя-хрысціянскай цывілізацыі. А таму нацыянальным інтарэсам Расіі не могуць адпавядаць ні саюз з тэрарыстычнымі дзяржаўнымі ўтварэннямі, створанымі Садамам, Кастра і Кадафі, ні канфрантацыя з бліжэйшымі суседзямі, ні спробы аб'яднання з беларускім саўгасам.

Працаўнікі Лукашэнкі апярэджваюць яго крытыку агаворкамі, што яны ўвогуле за інтэграцыю, але... Аднак трэба яшчэ разабрацца, ці патрэбна наогул інтэграцыя. Якія базавыя каштоўнасці: дабро Расіі ці інтэграцыя дзеля інтэграцыі, саюз дзеля саюза".

*Дзмітрый ШУШАРЫН. "Расія для Расіі",*
*("Литературная газета", 8 ліпеня 1998 г.)*

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

Людміла Кальмаева (Нідэрланды) і Аляксандр Родзін (Беларусь). І яна і ён добра вядомыя, яны зрабілі важкі ўнёсак у мастацтва Беларусі, і крыху дзіўна ўспрымаць нашу Людмілу Кальмаеву як прадстаўніцу Нідэрландаў. Але ж гэта так: ужо колькі часу спадарыня Людміла жыве на Захадзе. Сённяшні яе стыль значна адрозніваецца ад "беларускага перыяду". Была канкрэтыка ў тэме і выразная графічнасць у выкананні, цяпер — абстрагаванасць вобразаў, філасафічнасць і жывапіснасць.

Жывапіс Аляксандра Родзіна можна аднесці да негеаметрычнага абстракцыялізму з элементамі сац-арту. Але паўсюдна філасафічнасць пераважае над сацыяльнай і нацыянальнай заангажаванасцю мастака. Сёлета А. Родзін разам з А. Марачкіным ладзілі, як сябры суполкі "Пагоня", выставу ў Бруселі, у сядзібе "Хартыі-97". Пра яе маўчалі беларускія СМІ, але поспех яна мела надзвычайны. Бо творы той выставы спалучалі філасафічнасць і сацыяльнасць.

Адна з карцін спадара Родзіна на выставе ў Палацы мастацтваў мае назву "Першабытны краявід". Для яго "першабытнасць" — гэта не дыназаўры на фоне гіганцкіх папаратнікаў. Першабытнасць — віхор зорнага пылу, у якім зарадзілася жыццё. Як казаў калісь мудры філосаф: "Людзьмі нас робіць зорнае неба над галавою і маральны закон унутры нас". Гэта магло б быць дэвізам творчасці Аляксандра Родзіна.

ФЕСТЫВАЛІ

# І зноў "Магутны Божа"

З 11 па 15 ліпеня ў Магілёве прайшоў VI Міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа". Сярод удзельнікаў (а гэта каля 450 чалавек) былі прадстаўнікі Польшчы, Расіі, Украіны, Беларусі. Міжнароднае журы, якое ацэньвала конкурсныя праграмы харавых калектываў, ансамбляў і вакалістаў, узначальваў шаноўны маэстра Віктар Роўда. Штовечар адбываліся канцэрты ў касцёле св. Станіслава, працавалі тры прымеркаваныя да фестывалю выстаўкі...

Пра ўсё гэта мы распавядзём з часам больш падрабязна. Сёння ж назавём тых, каму дасталіся галоўныя ўзнагароды. Гран-пры фестывалю атрымаў гарадскі акадэмічны хор з Бранска (кіраўнік М. Бусціла). Першыя месцы (у розных намінацыях) занялі спявачка Таццяна Пятрова (Мінск), народны самадзейны камерны хор "Воскресение" (кір. Т. Журба, г. Залатаноша, Украіна), узорны хор ДМШ "Чароўнасць" (кір. Л. Мальцэвіч, г. Барысаў), хор хлопчыкаў кафедральнага храма св. Сафіі (кір. А. Кашперка, г. Жытомір, Украіна). Лаўрэатамі другой прэміі названы вакалісткі Маргарыта Александровіч і Наталля Трашко (абедзве — Мінск), ансамбль "Signum Spei" кафедральнага касцёла г. Замасць (кір. В. Макшыцкі, Польшча), мужчынскі вакальны ансамбль "Славяне" (кір. А. Гембіцкі, г. Мінск). На трэцім месцы — узорны хор ДМШ г. Слоніма "Камерата" (кір. Н. Кукліцкая).

У сераду адбылася ўрачыстая цырымонія закрыцця фестывалю, шанаванне ўладальнікаў дыпломаў і шматлікіх спецыяльных прызоў, а таксама выбітны гала-канцэрт, які завяршыўся выкананнем беларускага гімна-малітвы "Магутны Божа". Вялікім зводным хорам дырыжыраваў народны артыст СССР акадэмік Віктар Роўда.

**С. Б.**

ІМПРЭЗЫ

# "Чуві-чу" ад Штокхаўзена

У вялікім музычным свеце ведаюць і шануюць асобу германскага творцы і тэарэтыка Карлхайнца Штокхаўзена. Сёлета цікавасць да асобы аднаго з буйнейшых прадстаўнікоў музычнага авангардызму — асаблівая: яму спаўняецца 70. Пры садзейнічанні "Гётэ-інстытута" ў Мінску ды Беларускага таварыства сучаснай музыкі ў сталічным Доме дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі прайшоў цыкл музычных вечароў "Карлхайнц Штокхаўзен. Партрэт у люстэрку часу"

Даніна пашаны юбіляру. І, можна сказаць, даніна павагі да нашай культурнай грамады, чый досвед, бясспрэчна, узбагаціўся доўгачаканай сістэматызаванай і жывой інфармацыяй пра аднаго з выбітных заходніх сучаснікаў.

Музыказнаўца Кацярына Сядова зрабіла гэтую сустрэчу нязмушанай і змястоўнай. Паказ відэаматэрыялаў чаргаваўся з аповедам пра асобу кампазітара, пра яго электронную музыку, эксперыменты з рознымі выканаўчымі складамі, пра стварэнне інтуітыўнай музыкі.

Другая вечарына ў Доме дружбы, што адбылася днямі, выдавала нават на лекцыю-канцэрт. Размова была пра грандыёзную задуму Штокхаўзена — оперны макрацыкл з сямі твораў, разлічаны на выкананне па днях тыдня. Напісаныя пяць опер з гэтага цыкла, вядомага пад назваю "Святло", натхнёныя думкай кампазітара пра тое, што кожны чалавек нясе ў сабе ўсё чалавецтва. У стасунках трох герояў — Міхаэля, Евы ды Люцыпара — сплятаюцца ўяўленні пра стварэнне-існаванне свету ды аўтабіяграфічныя матывы Штокхаўзена. Своеасаблівая праекцыя вобразаў оперы "Чацвер" прагучала ў фартэпіяннай кампазіцыі "Klavierstuck XII": за раялем варажыў Алег Крымер, а нетрадыцыйную "падгучку" да ягонай ігры выконваў кампазітар Вячаслаў Кузняцоў, старшыня Беларускага таварыства сучаснай музыкі. Ён сядзеў побач з піяністам, трымаючы мікрафон, і раз-пораз выгукваў дзіўныя фанемы, "смактаў паветра", фырчэў, цыкаў, лічыў па-нямецку да шасці, выводзіў амаль па-птушынаму "чуві-чу" ды штосьці таемна шаптаў...

Быў і яшчэ адзін оперны фрагмент, сюжэтна звязаны з перамогай Міхаэля над змеем. Асаблівы эфект святла дасягаецца аўтарам праз нечаканае з'яўленне двух юнакоў з сапрана-саксафонамі — гэты дуэт паўстаў і перад намі...

Цікавасць Штокхаўзена да культуры Усходу, ягонае захапленне экзатычнай рытуальнай музыкай адлюстравалася ў п'есе "Цэйлон" з цыкла "Да наступных часоў", у якой сыгранасць музыкантаў залежыць не ад дакладнага выканання нотнага тэксту, а ад іх унутранай суладнасці, інтуіцыі, бо строгі нотны тэкст выпісаны толькі для аднаго інструмента... І калі гэтага не ведаць, можна думаць, што беларускія ўдарнікі Аляксандр Старажук, Валерый Кардаільскі ды Ігар Аўдзееў віртуозна выканалі задуму аўтара. Зрэшты, мо так яно і было?

Апроч згаданых кампазіцый, якія выконваліся ў Мінску ўпершыню, прагучаў і твор, нашай публіцы ўжо знаёмы, — "У сяброўстве". Самая "традыцыяналісцкая" з прадстаўленых у той вечар кампазіцый, яна цікавая сваёй вынаходлівай тэатральнасцю, дыялагічнасцю формы. Голас нізкі — "Ён", голас высокі — "Яна", між імі — рухавая трэль: пачуцці, словы, учынкі, стасункі... Воляю самога аўтара, "У сяброўстве" існуе ў розных інструментальных версіях, і ён згодны, сустрэўшыся з выканаўцам, зрабіць яшчэ якую-небудзь версію. Нам жа давялося пачуць, бадай, самы распаўсюджаны варыянт — для кларнета. Граў Майстар — Генадзь Забара, і ў гэтым "тэатры аднаго акцёра" гучала, спявала, гаманіла само жыццё...

Вось так: некалькі хвілін музыкі, рознай, незнаёмай, камусьці блізкай, камусьці чужой — і спрычыняешся да нейкага новага жыцця...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Разьба сярод пацех

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Цэлы дзень ліў дождж, а каля Капыльскага РДК было людна. Людзі сабраліся, каб адзначыць адразу два святы — "Капыльскія пацехі" і "Разьбы зачараванне".

"Капыльскія пацехі" — абласны фестываль гульнёва-забаўляльных праграм, якія ладзілі самадзейныя артысты з многіх раёнаў Міншчыны. На ім выступілі сем калектываў. Не ставячы сабе на мэце даць ацэнку артыстычнага выканання кожнай з паказаных праграм, мушу колькі слоў сказаць пра вясёлую школу "Гулякі" з Любаня.

Гэта самы малады калектыў сярод астатніх удзельнікаў "Капыльскіх пацех". Хоць і нарадзіўся ён толькі ў сакавіку гэтага года, але карыстаецца добрай рэпутацыяй сярод землякоў.

У Капылі любанцы паказалі тэатральна-рамантычную беларуска-цыганскую праграму "Ай, на-нэ" (рэжысёр Галіна Жураўская, яна ж — "хросная маці" вясёлай школы пры раённым цэнтры культуры). У ролі старога цыгана выступіў метадыст-практык па клубных установах раёна Ф. Федарук.

"Разьбы зачараванне" сабрала тых, хто ўмее рэзаць па дрэве, а яшчэ тых, хто ўмее цаніць гэта майстэрства. Рэзчыкаў па дрэве падзялілі на дзве групы — монументалістаў і проста рэзчыкаў. Манументалісты працавалі на працягу тыдня, каб выразаць з дрэва скульптуры. Усяго іх было зроблена восем і застануцца яны ў Капылі. Астатнія рэзчыкі за тры гадзіны абавязаны былі выразаць па сваім выбары лыжку, пано, якую-небудзь фігурку.

Усе восем фігур былі выстаўлены для агляду ў невялікім скверыку. Маю ўвагу прыцягнуў мядзведзь, — які ў лапах трымаў чашу з мёдам. А знізу былі выявы вавёркі, лася, аленя. Гэтую выяву зрабіў Іван Іванавіч Васілевіч. Са сваіх нямногім больш чым сарака гадоў выразваннем той займаецца гадоў 20. Захапляецца музыкай: іграе на баяне, акардэоне, піяніна, электрамузычных інструментах.

Знайшоў яго ў фае РДК. Іван Іванавіч сядзеў на прыступках. Інструмент і калодачка мільгалі ў яго руках. То ці варта здзіўляцца, што ён за 5 дзён выразаў скульптуру — замест адпушчаных 7, а імя яго значылася сярод лаўрэатаў?

Быў там і 16-гадовы навучэнец Вілейскага ПТУ Дзіма Заўшыц. Разьбой захапляецца з 12 год. Цікава, што ўдасканальвае сваё майстэрства ў вучылішчы і адначасова вучыць іншых. У яго займаюцца 13 хлопчыкаў ад 8 да 14 год.

**Валянцін ЛЯШЧЫНСКІ**



*На здымках: Дырэктар Любанскага цэнтра культуры Фёдар ФЕДАРУК; Адкрыццё свята ў Капылі.*

*Фота В. ГАНЧАРЭНКІ*

ВЫСТАВЫ

# "Мінск" пра Мінск

У выставачнай зале Музея сучаснага мастацтва да свята сталіцы фотаклуб "Мінск", старэйшае аб'яднанне фотааматараў Беларусі, прадставіў выставу "Мой горад". Апошні раз да гэтай тэмы фотаклуб звяртаўся больш за пятнаццаць гадоў назад. Сённяшняя выстава аб'яднала творцаў розных пакаленняў: негатывы В. Няхайчыка, напрыклад, адносяцца да 60-х гадоў, серыя "Старонкі кнігі пра Мінск" Ю. Елізаровіча і С. Калтовіча выканана ў 1985—1987 гадах, творы Н. Мамінава, В. Пацеева і А. Клюева зроблены сёлета. І вобразнае ўяўленне горада шматстайнае: сучасныя архітэктурныя збудаванні і вуліцы (Н. Мамінаў), сады і паркі горада (А. Цехановіч), старажытныя закуткі (В. Няхайчык), храмы (А. Паўлюць), святочныя шэсці (Ю. Васільеў), вуліца што-дзень бачаная з вакна (С. Кавалёў), горад, якога ўжо няма (Ю. Элізаровіч, С. Калтовіч), суседзі (В. Пацееў) і іншае.

А. БІРЫЛКА. *Ранак старога горада.*

Народны фотаклуб "Мінск" існуе больш за сорак гадоў, рэгулярна выступае арганізатарам рэспубліканскіх фотавыставак, пленэраў, семінараў, навучальных студый. Найбольш вядомымі праектамі клуба былі правядзенні шасці міжнародных салонаў "Фотаграфіка", "Мінскага форума-95": Міжнародная купалаўская фотапленэру-97. Сябры клуба — пастаянныя ўдзельнікі фатаграфічных салонаў пад эгідай FIAP, міжнародных фатаграфічных фестываляў, семінараў, выстаў, пленэраў у Расіі, Швецыі, Кітаі, Англіі, Францыі.

Ідэя фатаграфічнай выставы, прысвечаная Мінску, была дзейснена падтрымана Упраўленнем культуры Мінгарвыканкама, Мінскім гарадскім арганізацыйна-метадычным цэнтрам народнай творчасці, Музеем сучаснага мастацтва. Спонсарамі выступілі СП "Белая Вежа", эксклюзіўны дыстрыб'ютэр фірмы КОДАК у Беларусі, МП Сервіс Цэнтр "Дом Фота".

**Альберт ЦЕХАНОВІЧ**

ПОГЛЯД

# Лічбы не проста гавораць

Сёння дэзарыентацыя прыватызацыі відавочная, а яна ж закранае інтарэсы больш чым паўтарамільённага сельскага насельніцтва. У аграпрамысловым комплексе Беларусі зараз функцыянуе больш за 7 тысяч суб'ектаў гаспадарання, у якіх занята каля 1,3 мільёна чалавек. Фарміраванне шматукладнай рынкавай эканомікі ў аграпрамысловым сектары ідзе надзвычай марудна. У многім гэта абумоўлена тым, што ў рэспубліцы адсутнічае спецыяльнае заканадаўства, якое рэгулявала б працэс прыватызацыі прадпрыемстваў АПК з улікам іх спецыфікі і функцыянавання.

Зараз склалася парадаксальная сітуацыя, калі значная частка саўгасаў у святле дзеючага заканадаўства павінна будзе прыватызоўвацца, а калгасы атрымаць маёмасць дармова. Відавочна, што запушчаны механізм чэкавай прыватызацыі ставіць калгаснікаў і рабочых саўгасаў у няроўнае становішча. Справа ў тым, што калгасы не з'яўляюцца па законе аб'ектамі прыватызацыі, бо ўвесь іх маёмасны комплекс знаходзіцца ва ўласнасці працоўных калектываў. У практычных умовах ён павінен падлягаць размеркаванню паміж членамі калгаса ў залежнасці ад працоўнага ўкладу бязвыплатна. Акрамя таго, сёння калгаснікі атрымліваюць імянныя прыватызацыйныя чэкі нароўні з іншымі катэгорыямі грамадзян рэспублікі і могуць выкарыстоўваць іх на набыццё ўласнасці дзяржаўных прадпрыемстваў, у тым ліку і саўгасаў.

Гісторыя развіцця калгаснай вытворчасці сведчыць, што маёмасць іх стваралася не толькі за кошт гасразліковых сродкаў працоўных калектываў, але і за кошт бюджэтных асігнаванняў. У такой сітуацыі, безумоўна, неабходна прадугледзець у заканадаўчым парадку выкарыстанне імянных прыватызацыйных чэкаў, якія выдаюцца калгаснікам, на прыватызацыю дзяржаўнай долі капіталу ў калгасах. У той жа час працоўнаму калектыву саўгаса пры прыватызацыі хопіць імянных прыватызацыйных чэкаў толькі на 26—30 працэнтаў маёмасці саўгаса. Калі працоўны калектыў саўгаса захоча стаць уласнікам свайго прадпрыемства, то астатнія 70—75 працэнтаў кошту маёмасці ён павінен будзе выкупляць за свае грашовыя сродкі. Між тым, сёння вядома, што многія калгаснікі і рабочыя саўгасаў, не атрымліваючы своечасова свайго заробку, прадалі, каб пракарміцца, свае прыватызацыйныя чэкі камерцыйным структурам за бясцэнак. Думаецца, было б справядліва і эканамічна абгрунтавана, каб працоўныя калектывы саўгасаў атрымалі частку маёмасці саўгасаў таксама бясплатна, тым больш, што многія саўгасы былі створаны на базе былых калгасаў.

Хачу адзначыць, што прыватызацыя сельскагаспадарчых прадпрыемстваў не ставіць сваёй мэтай раздзел маёмасці на дробныя абасобленыя вытворчасці. Галоўная задача прыватызацыі — змена форм вытворча-эканамічных адносін у калгасах і саўгасах, павышэнне эканамічнай матывацыі вытворцаў, захаванне буйной вытворчасці на новай якаснай аснове шляхам пераўтварэння наёмнага работніка ў працаўніка-ўласніка.

Сусветны вопыт сельскай гаспадаркі сведчыць, што кааперацыя, у большасці сваёй, выступае як форма сумеснай дзейнасці ўласнікаў — членаў калектыву. У гэтай сувязі нашы калгасы не ўяўляюць сабой кааператываў таму, што маёмасць у іх абагульнена і часткова адзяржаўлена. Менавіта таму калгаснікам і рабочым саўгасаў нельга мірыцца з сітуацыяй, калі група кіруючых "дзялкоў" — кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, прыкрываючыся "нічыйнай", агульнай, калектыўнай уласнасцю, разбазарвае сродкі, нажытыя працоўнымі калектывамі, скарыстоўвае іх дзеля асабістай нажывы. Яны сёння будуюць сабе катэджы, прадаюць калгасную тэхніку, гандлююць мінеральнымі ўгнаеннямі, жыллём, зямлёй, а народ бачыць усё гэта і маўчыць, бо... ён не распараджаецца гэтай уласнасцю.

Недапушчальна, каб нямногія "дзялкі" мелі прыватную ўласнасць, а ўсе астатнія мелі нічога. Уласнасць павінна быць ва ўсіх у выглядзе нерухомасці.

Сёння працаўнікі сельскай гаспадаркі перажываюць сур'ёзны крызіс. Няўменне кіраўнікоў гаспадарак працаваць у рынкавых умовах прывяло шмат калгасаў да банкруцтва. Адзіным выйсцем з гэтай сітуацыі з'яўляецца прыватызацыя гэтых гаспадарак і іх трансфармацыя ў эканамічна-жыццяздольныя дэмакратычныя фермерскія асацыяцыі і кааператывы.

У складаны перыяд пераходу да рынкавых адносін члены гэтых гаспадарак будуць працаваць у калектыве, прыносячы максімальную карысць. У сваю чаргу яны самі змогуць прымаць на работу і звальняць кіраўнікоў, якія будуць адказваць за якасць, захаванне, перапрацоўку і продаж вырабляемай імі прадукцыі.

Такім чынам, асноўнай мэтай для іх стане эканамічна выгадная вытворчасць высакаякасных прадуктаў як для ўнутраных, так і для знешніх спажыўцоў. Тыя члены гаспадарак, якія не хочуць прымаць удзел у вытворчасці сельгаспрадукцыі, атрымаюць магчымасць здаваць свае ўчасткі зямлі ў арэнду і працаваць у сферы перапрацоўкі або збыту у той жа гаспадарцы, і, будучы свайго роду акцыянерамі, разлічваць на сваю долю прыбытку. Сацыяльная інфраструктура будзе захавана за кошт падатку на прыбытак. Утрыманне школ, дзіцячых садоў, бальніц і выплата пенсій будзе ажыццяўляцца за кошт сродкаў, выдзеленых з мясцовага бюджэту пад кантролем мэра або спецыяльна створанага савета кіраўнікоў.

На мой погляд, законы аб зямлі, аб фермерскіх гаспадарках, сельскагаспадарчых банках і крэдытах, падаткаабкладанні, прыватнай уласнасці на зямлю патрабуюць перагляду, бо з'яўляюцца тормазам эканамічных рэформ. Сёння ключавым пытаннем сельскай гаспадаркі з'яўляецца будучыня нашых калгасаў і саўгасаў. Маё меркаванне: ва ўмовах рынкавай эканомікі калектыўная сельская гаспадарка не можа дасягнуць поспеху. Хіба ж не бачна, што калектыўная арганізацыя працы па адзіным плане вядзе да адных і тых жа сумных вынікаў: згортвання гаспадарчай ініцыятывы і прадпрымальнасці, распаўсюджвання безадказнасці, раўнадушша да працы, як вынікаў, фарміраванне ўтрыманскай псіхалогіі. Чалавек адчужаны ад сродкаў вытворчасці і вынікаў сваёй працы. А таму яму ўсё роўна, які прадукт ён стварае, якой якасці, і ці патрэбен гэты прадукт наогул каму-небудзь. І наадварот, асабістая праца ў прыватнай гаспадарцы, якую мы ўвесь час знішчалі, выратавала нас ад вымірання. Хіба ж зараз не відавочна, што 15 працэнтаў ворнай зямлі, якая знаходзіцца ва ўласным зямельным карыстанні ў насельніцтва, дае нам 48 працэнтаў валавай вытворчасці сельскай гаспадаркі? Лічбы гэтыя не проста гавораць, а крычма крычаць аб тым, што колькі ж можна хітрыць і тармазіць рэформы?!

**Аляксандр ЗАРАНОК, эканаміст, член Цэнтральнай рады Беларускай сялянскай партыі**

*Калінкавіцкі раён, вёска Сырод*

АБСЯГІ

ВІЦЕБСК...

## Гастролі завяршыліся

У Віцебску з аншлагам праходзілі гастролі Акадэмічнага Вялікага тэатра балета Рэспублікі Беларусь. На гэты раз галоўны мастацкі кіраўнік В. Елізар'еў прывёз віцяблянам класіку: "Лебядзінае возера", "Шчаўкунчыка", "Жызэль", "Кармен-сюіту".

## Вежа... спатыкнення

Праект будаўніцтва Энергетычнай вежы ў цэнтры Віцебска нарадзіў вялікія спрэчкі ў культурнай грамадскасці горада. Як паведамлялася ўжо, гарадскія ўлады далі "дабро" на ажыццяўленне прыватнага праекта швейцарскай мастачкі Сюзаны Бауман, які быў прадстаўлены на выставе па выніках леташняй работы пленэру імя Марка Шагала.

Вежу з ажурнага металу і каляровага шкла, вышынёй у 34 метры, планавецца ўзвесці ў скверы Леніна ў межах гістарычнага цэнтра Віцебска. Супраць гэтага выступіў камітэт па ахове гістарычна-культурнай спадчыны. Яго прадстаўнік у Віцебску Н. Сулецкая лічыць, што з'яўленне высотнай дамінанты ў гістарычным цэнтры істотна яго зменіць. У дадзеным выпадку закон на баку аховы гістарычнага вобліка старажытнага горада. Сваё катэгарычнае "не" выказалі і прадстаўнікі праваслаўнай царквы.

Аднак галоўны архітэктар горада Б. Ладзэнка лічыць, што месца для вежы выбрана ўдала, бо частка сквера даўно чакае свайго добраўпарадкавання. Дарэчы, у гістарычным цэнтры горад маркуе аднавіць Успенскі сабор, вышыня якога таксама 34 метры. Праект вежы падтрымлівае савет творчай інтэлігенцыі Віцебска. Аднак канчатковае рашэнне за гарадскімі ўладамі.

## Славянскі базар: традыцыі і навацыі

З 20 па 29 ліпеня на Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" прыбудзе больш за пяць тысяч гасцей. У праграме фестывалю — сольныя канцэрты ў Летнім амфітэатры В. Лявонцьева, А. Газманава, Т. Гвердцытэлі, Л. Вайкуле. Для аматараў класікі фестываль мастацтваў прапануе канцэрт майстроў балета "Душой напоўнены палёт", у якім прымуць удзел знакамітыя зоркі з Расіі В. Гардзееў, А. Ліепа, Н. Паўлава. На свята фальклору прыбудуць фальклорныя ансамблі з Украіны, Італіі, Грэцыі, Польшчы, Ізраіля. У конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні возьмуць удзел 17 спевакоў з 14 краін свету. Беларусь прадставіць салістка Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады В. Вронская і В. Дземянчук з Гродна, якая стала лаўрэатам першай прэміі тэлевізійнага конкурсу "Зорная ростань".

На фестываль свае новыя калекцыі адзення прывязуць вядомыя куцюр'е. У свяце "Мода і музыка новага пакалення" будзе прадстаўлена калекцыя В. Зайцава "Гартаючы памяці старонкі". Н. Астапенка з Беларускага цэнтра моды прапануе гледачам калекцыю "Пачатак стагоддзя".

Віцебск старанна рыхтуецца да чарговага славянскага форуму, які, дарэчы, не мае сёлета свайго традыцыйнага парадкавага нумара. Сузаснавальнікі былых шасці фестываляў "Славянскі базар" ладзяць шоу ў Саратаве. Аднак Віцебск не мае намеру губляць сваю марку. Прыведзена да ладу галоўная сцэна — Летні амфітэатр, падрыхтаваны гасцінічныя нумары, наводзіцца бляск на цэнтральных вуліцах і плошчах.

**Святлана ГУК**

МАГІЛЁЎ...

## Малюнкі для календара

Свае малюнкі для ілюстраванага настольнага календара на 1999 год, як паведамляе "Магілёўская праўда", павезлі ў Германію выхаванцы Клімавіцкай дзіцячай мастацкай школы. Выдавец — грамадская ініцыятыўная група "Фонд — дзецям Чарнобыля" з горада Хагена — зрабіў заказ юным мастакам, прапанаваўшы ў малюнках расказаць аб прыгажосці роднага краю.

Нагадаем, што гэта будзе ўжо другі настольны каляндар, які праілюструюць юныя мастакі. Першы, на 1997 год, выпусціла з дзіцячымі малюнкамі аналагічная ініцыятыўная група з суседняга з Хагенам горада Дортмунда. Частка грошай, атрыманых ад продажу першага календара, была пералічана ў Клімавічы — на рахункі мастацкай школы, мясцовага дзіцячага садка і сярэдняй школы N 2.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ГОМЕЛЬ...

## Бібліятэка не старэе

Рагачоўская зямля дала Беларусі выдатнейшых літаратараў. У гады Вялікай Айчыннай загінуў слынны паэт Мікола Сурначоў. Тут нарадзіўся знакаміты драматург Андрэй Макаёнак. Карані гэтага краю — у творчасці старшыні абласнога аддзялення СП, празаіка, драматурга і публіцыста Васіля Ткачова. Некалькі зборнікаў ужо выйшла ў паэта Міколы Янчанкі. Творы землякоў — вядомых беларускіх пісьменнікаў займаюць ганаровае месца на паліцах Рагачоўскай цэнтральнай бібліятэкі (адной са старэйшых на Беларусі), якая адзначае сваё 90-годдзе. Сюды прыходзіць шмат моладзі, праводзяцца шматлікія вечарыны, конкурсы, якія прапагандуюць літаратуру і мастацтва роднай рэспублікі. Дарэчы, гасцямі бібліятэкі ў свой час былі Дзяржаўная Акадэмічная харавая капэла Беларусі пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, слаўныя людзі нашай Айчыны Адам Русак, Уладзімір Караткевіч, Еўдакія Лось.

## Шматгранны талент

У Гомелі добра ведаюць жывапісца і мастацтвазнаўцу, члена Беларускага Саюза мастакоў Пятра Дзмітрыевіча Лук'яненку. Ён нарадзіўся ў горадзе над Сожам, закончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Акадэмія мастацтваў). Роднаму Гомелю, яго наваколным мясцінам Пётр Дзмітрыевіч прысвяціў нямала сваіх твораў, у тым ліку пра славуты палаца-паркавы ансамбль, якому летась споўнілася 200 гадоў. Гэты мастак — шматпланавы. Плённа працуе ў жанры станковага жывапісу. Днямі ў выставачнай зале абласнога краязнаўчага музея адкрылася персанальная выстава Лук'яненкі. Гамяльчане знаёмяцца з яго новымі работамі "Сож. Восень", "Лістапад", "На Дняпры", лірычнымі жаночымі партрэтамі. Дарэчы, Пётр Дзмітрыевіч выкладае ў Гомельскім мастацкім вучылішчы, шмат робіць для прафесійнага росту маладых талентаў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ЛіМ ЧАСАПІС

## Як жывуць беларусы

**Пад рэдакцыяй Анатоля Сабалеўскага ў выдавецтве "Беларуская навука" пабачыў свет трэці выпуск зборніка "Культура беларускага замежжа". Пачатак гэтаму выданню быў пакладзены ў 1991 годзе, калі пры тагачасным Міністэрстве культуры па ініцыятыве А. Сабалеўскага стварылі Часовы творчы калектыў, які і ўзяўся за падрыхтоўку рукапісу першай кнігі. Паколькі, паводле статутных правілаў, такая творчая суполка існуе ўсяго адзінаццаць месяцаў, у наступным годзе ўтварылі новы Часовы творчы калектыў. А ў выніку і з'явіліся два выпускі зборніка "Культура беларускага замежжа". Першы выйшаў у пачатку 1993 года, а другі ўбачыў свет на пачатку ліпеня таго ж года — акурат да Першага з'езда беларусаў свету, што праходзіў у Мінску.**

**Абедзве кнігі атрымалі належны рэзананс сярод нацыянальна свядомай грамадскасці і былі высока ацэнены ў друку. Прымаліся захады і па падрыхтоўцы трэцяга выпуску, "але,— як сведчыць у прадмове "Пра пачынанні і працяг" А. Сабалеўскі, — рэальнасць зрабіла свае папраўкі, і зусім не ў лепшы бок. Прытым пры даволі выпадковым збегу акалічнасцей: было ўзбуйнена, г. зн. рэарганізавана, Міністэрства культуры, пры якім... функцыянаваў Часовы творчы калектыў, памянялася там кіраўніцтва. І яно, не зацікаўленае ў далейшай працы калектыву, не заключыла, кажучы канцылярскай тэрміналогіяй, новую дамову, і ўсё спынілася".**

**І тым не менш добрая справа атрымала працяг. А. Сабалеўскі знайшоў выйсце: у трэці выпуск зборніка ўключаны матэрыялы Другой міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Культура і адукацыя беларускага замежжа", што праходзіла ў Мінску 5—6 красавіка 1996 года і была арганізавана Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына". А паколькі тэматыка дакладаў і паведамленняў, што прагучалі ў час гэтага мерапрыемства, адпавядае тэматыцы зборніка "Культура беларускага замежжа", яны і склалі змест трэцяга выпуску. Праўда, даваўся крыху ўдакладніць назвы раздзелаў. Цяпер яны выглядаюць наступным чынам: "Беларусы ў свеце", "Адукацыя", "Мова, літаратура", "Культурнае жыццё". Падрыхтавалі ж кнігу да выпуску супрацоўнікі часопіса "Тэатральнае жыццё", галоўным рэдактарам якога з'яўляецца А. Сабалеўскі (складанне і прадмова А. Сабалеўскага, рэдактура і пераклад асобных матэрыялаў з рускай мовы Я. Мiклашэўскага і І. Стадольніка, стыльрэдактура і зверка тэкстаў Л. Карамазавай, машынапіс М. Жукоўскай). Выданне падрыхтавана на грамадскіх пачатках.**

**Матэрыялы зборніка даюць нямала новага аб жыцці беларусаў у блізкім і далёкім замежжы, знаёмяць з творчасцю асобных пісьменнікаў, якія жывуць і твораць у далечыні ад Бацькаўшчыны. Аформіліся моцныя беларускія асяродкі не толькі ў асобных краінах, а і ў рэгіёнах. У прыватнасці, у Навасібірску (Расія). Адпаведна вядзецца і немалая даследчыцкая работа. У гэтым лёгка ўпэўніцца, калі пазнаёміцца з матэрыяламі, у аснову якіх пакладзены выступленні дэлегатаў з Навасібірска: "Беларусы Сібіры: гісторыя і сучаснасць" У. Галузы, "Служылая літва" А. Люцыдарскай, "Вольнанародная каланізацыя Сібіры (другая палова XIX — пачатак XX стагоддзя)" Н. Радзігінай, "Беларусы ў Прыоб'і (сярэдзіна XIX — пачатак XX стагоддзя)" А. Майнічавай і іншых.**

**Важныя пытанні асэнсаваны ў матэрыялах, аўтарамі якіх з'яўляюцца прадстаўнікі далёкага замежжа. Гэта — успаміны Я. Жучкі з Бруселя "Вучоба ў Лювенскім універсітэце", паведамленне Р. Жук-Грышкевіч з Таронта "Дзейнасць канадскай дыяспары", аналітычныя развагі Л. Юрэвіча "Міфалагічныя вобразы (На прыкладзе творчасці Янкі Юхнаўца)" і Я. Запрудніка (абодва з Нью-Йорка) "Беларускія мастакі на чужыне — вяшчальнікі Бацькаўшчыны"...**

**Уяўленне аб творчасці асобных пісьменнікаў замежжа, аб культурным жыцці ў некаторых краінах даюць такія матэрыялы, як "Культура і адукацыя беларускага замежжа" Р. Гарэцкага, "Адукацыя як фактар кансалідацыі беларускай дыяспары" Л. Лыча, "Ля вытокаў літаратурнай і навуковай журналістыкі" У. Конана, "Вяртанне да песень маладосці (Аб паэзіі Анатоля Бярозкі)" А. Ліса, "Лёс беларускай жанчыны (Творчасць А. Саковіч)" Л. Савік і іншыя.**

**Наклад трэцяга выпуску "Культуры беларускага замежжа" невялікі — усяго 800 адпаведнікаў. Таму тым, хто цікавіцца гэтымі праблемамі, трэба паспяшацца набыць кнігу.**

**П. СІМАНЕНКА**

КІНО

# Каб помнілі...

***На VII Міжнародным кінафоруме славянскіх і праваслаўных народаў "Залаты Віцязь" дакументальны тэлефільм "Спецперасяленцы" стаў лаўрэатам. "За ўвасабленне на экране драматычнага лёсу народа", — адзначана ў дыпломе, які прывёз у Беларусь рэжысёр фільма Валерый Жыгалка.***



Трыццатыя перадваенныя гады... Страшэнныя гады сталінскіх чыстак, рэпрэсій, гулагаў...

Сёння мы ведаем: гэта быў час татальнага вынішчэння ідэалагічных і ўладных супраціўнікаў — палітычных інакшадумцаў, рэлігійных і культурных дзеячаў, вайсковай і навуковай эліты...

Давайце тут запынімся і паразважаем.

На кім трымаецца духоўнае здароўе нацыі? На інтэлектуалах? Так. Але пагадзіцеся: пажыўным асяроддзем для іх заўжды было сялянства. На працаўніку-земляробе, на селяніне трымаецца нацыя, мацуецца дзяржава. Бо ад зямелькі-маці вынікае ўсё: культура, мараль, працаздольнасць...

Дык вось, падзеі трыццатых гадоў, калектывізацыя былі часам ваяўнічага разгулу злачыннай ідэалогіі, калі пад лозунгам барацьбы з варожым эксплуататарскім класам вынішчаліся нацыі. Каб стварыць адзіную нацыю — камуністаў. Каб збудаваць тую вавілонскую вежу сацыялізму, якая вышэй за аблокі і Бога, з якой пparticularly прагляддзіся б абсягі ўсёй Зямлі, сусветная панаванне і ўлады.

Палітыка сталінскага генацыду закранула і Беларусь. Якраз пра гэта, пра вынішчэнне Сталіным і яго памагатымі лепшых прадстаўнікоў сялянскага люду і апавядае нам беларускі хранікальна-дакументальны тэлефільм "Спецперасяленцы".

"Яны не былі дзяржаўнымі дзеячамі, не пісалі забароненых кніг, не хацелі ўнікаць у класавую барацьбу. Хацелі толькі аднаго: жыць на зямлі сваіх продкаў, працаваць на ёй, гадаваць дзяцей. І гэта найвялікшая радасць сялян стала іх найвялікшай віною". Такім закадравым аўтарскім тэкстам пачынаецца тэлефільм — расповед пра найвялікшую трагедыю беларускага народа першай паловы XIX стагоддзя — вынішчэнне сялянства, "кулачества", як тады гаварылі сталіністы.

Грукацелі эшалоны з Беларусі — ад родных хат, ад бацькоўскіх магіл да пагібельнага існавання ў аснежанай Поўначы.

Іх прымусовай радзімай сталіся неабсяжныя прасторы Сібіры, далёкі Архангельскі край. Іх прывозілі ў неабжытую таежную глухмень з малымі дзецьмі і старымі людзьмі, з пажыткамі, якія дазволілі несці толькі ў руках. І тут, у страшэнны мароз, пакідалі з разлікам на пагібель. Але працавітасць, умельства і дух — ратавалі. Яны выжывалі. На жаль, не ўсе...

Творчая група "Тэлефільма" задалася мэтаю: знайсці тых беларусаў, якіх напаткаў жахлівы лёс сталінскага генацыду і якія не змаглі вярнуцца на Бацькаўшчыну. Пачуць іх споведзі і расказаць пра ўсё. Каб ведалі, каб помнілі. І каб не паўтарылася!

"Мы ляцелі над паўночнай тайгою і шукалі прыкметы шматлікіх спецпаселішчаў. Сакрэтная карта 1937 года сведчыла, што Архангельская вобласць у той час была па сутнасці рэзервацыяй".

І стваральнікі фільма знайшлі тых беларусаў — жывых сведкаў і шматпакутнікаў.

— Мы былі непаўналетнія, і нас выслалі разам з маці. Пагрузілі ў вагоны-цяплушкі чалавек па 50. Тут вам сталоўка, тут вам і прыбіральня..., — расказвае ў фільме ўраджэнец Віцебскай вобласці Вячаслаў Фартунатавіч Снарскі. — Нас прывезлі ў Котлас, быў такі вядомы лагер Макарыха. Баракаў 70—80. А баракі такія: укапаныя слупы, зверху накіданы ельнік, прысыпаны пяском. І вось — буданы даўжынёю 20-25 метраў. На нарах лёд, снег. Калі ласка — жыццё. Мужчын пагналі на лесанарыхтоўкі. Асталіся дзеці, старыя. І ўжо на вясну нікога не ацалела. Усіх занеслі на могілкі. Мяне ж уратавала тое, што з дзяцінства не быў беларучкай. Пачынаў і араць, і касіць... Любіў гэту работу і гаспадарку.

— Фільм складаецца з трох навел, — расказвае рэжысёр фільма Валерый Жыгалка. — Гэта лёсы трох беларускіх сем'яў. Перамагаючы пранізлівую сцюжу, з дапамогай мясцовых улад і вайскоўцаў мы сустрэліся з людзьмі, якія сталі героямі нашай стужкі. У нас была рэдкая магчымасць карыстацца архіўнымі справамі рэпрэсаваных беларусаў Архангельскага ўпраўлення ўнутраных спраў. Скарысталі і фотаальбом, зроблены па заказе НКУС у 30-я гады для паказушных мэт.

У VII кінафоруме "Залаты Віцязь", што праходзіў сёлета ў маі, удзельнічала 28 краін: Японія, ЗША, Польшча, Сербія, Чэхія, Румынія, Украіна, Эстонія, Расія... Дэвіз кінафоруму — "За маральныя хрысціянскія ідэалы. За ўзвышэнне душы чалавека". На форуме былі паказаны фільмы сусветнавядомых кінематаграфістаў: Кшыштафа Занусі, Анджэя Вайды, у якасці старшыні журы мастацкіх фільмаў прысутнічаў Юрый Ільенка.

У намінацыі "Мастацкія фільмы" прыз за лепшы дзіцячы фільм атрымала беларуская стужка "Маленькі баец" рэжысёра Маргарыты Касымавай.

У намінацыі "Студэнцкае кіно і дэбютныя фільмы" спецыяльную прэмію імя Андрэя Таркоўскага атрымала стужка Аляксандра Колбышава "Жаданне жыць".

У намінацыі "Відэафільмы і тэлевізійныя праграмы" дыплом і спецыяльная прэмія журы фестывалю прысуджана твору рэжысёра Рэнаты Грыцковай "Варвара Цудоўная".

У намінацыі "Дакументальныя фільмы", акрамя стужкі "Спецперасяленцы", адзначаны яшчэ і фільм "Прызнанне" рэжысёра Юрыя Лысятава. Фільм атрымаў прыз імя Міядрага Тараны Рэспублікі Сербскай.

Хочацца павіншаваць беларускіх пераможцаў VII Міжнароднага кінафестывалю "Залаты Віцязь", пажадаць ім далейшых поспехаў.

**Леанід КАЧАНКА**

*На здымку: стваральнікі фільма "Спецперасяленцы" (злева направа) — кінааператар Юрый Санжарэўскі, сцэнарыст Галіна Дзядзечкіна, рэдактар Галіна Злабенка, дырэктар здымачнай групы Ірына Грыгор'ева, рэжысёр Валерый Жыгалка.*

СУСТРЭЧЫ

# "У Беларусі ёсць будучыня!"

Людзі, блізкія духам, павінны сустракацца!.. І вельмі важна, каб такія сустрэчы былі змацаваны высокай ідэяй, сардэчнай лучнасцю. Менавіта гэтым і былі пазначаны настрой, атмасфера рэгіянальнай навукова-метадычнай канферэнцыі "Навучанне і вывучэнне беларускай літаратуры ў сярэдняй школе і ВНУ на аснове новай канцэпцыі літаратурнай адукацыі", што праходзіла ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я. Купалы.

Для ўдзелу ў канферэнцыі сабраліся прадстаўнікі школ з усёй Гродзенскай вобласці, прысутнічала дэлегацыя навукоўцаў з Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, выкладчыкі філалагічнага і іншых факультэтаў ГрДУ імя Я. Купалы. Асноўнай мэтай мерапрыемства з'яўлялася вызначэнне шляхоў і прынцыпаў удасканалення, даследавання і выкладання літаратуры ў сярэдняй школе, ПТВ і ВНУ на прынцыпах дэмакратызацыі і гуманізацыі навучання. Надзённасць гэтай праблемы і шматлікіх пастаўленых пытанняў відавочная. Сённяшнімі часамі, калі хуткімі тэмпамі развіваецца інфляцыя культуры і духоўнасці, ідзе няўмольная дэвальвацыя маральных каштоўнасцей і патрыятычных ідэалаў, такія сустрэчы, пазначаныя канкрэтнай мэтай накіраванасцю і свядомай адказнасцю за агульную справу, робяцца надзвычай важнымі.

Адкрыў пасяджэнне старшыня аргкамітэта, загадчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржуніверсітэта М. Мікуліч. Прафесар А. Пяткевіч сваім выступленнем задаў узнёсла-патэтычны тон пасяджэнню. Афіцыйна-казённаму стаўленню да культуры ён супрацьпаставіў скразную асветніцкую ідэалогію беларускай літаратуры. Выкладчыца кафедры беларускай літаратуры, член Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Руцкая ўзняла праблему выкладання рыторыкі, праанлізавала шляхі навучання красамоўству ў сярэдняй школе. Праблемы выкладання беларускай літаратуры ў кантэксце сусветнай закрануліся ў дакладах загадчыка кафедры рускай і замежнай літаратуры ГрДУ, доктара філалагічных навук Т. Аўтуховіч і загадчыка кафедры беларускай і рускай моў і методыкі іх выкладання, кандыдата філалагічных навук С. Кострыцы.

На прафесійным узроўні далучыліся да работы канферэнцыі настаўнікі. Гэтыя руплівцы сваімі дакладамі злучылі ў адну адухоўленую прастору навуковыя даследаванні, метадалагічныя напрацоўкі, практычны вопыт і сапраўдную творчую дзейнасць. Выступленні іх былі разнастайнай тэматыкі і накірункаў. Гэта перш за ўсё даклады Т. Трафімчык, Л. Борыс, В. Завіленчык, Н. Мухінай.

Паказчыкам сапраўднай зацікаўленасці з'явіўся факт удзелу ў рабоце канферэнцыі навукоўцаў-брастаўчан З. Мельнікавай, М. Яніцкага і інш., якія выступілі з навуковымі дакладамі, прысвечанымі пытанням распрацоўкі і ўдасканальвання новых альтэрнатыўных праграм па беларускай літаратуры.

Была высокая ідэя, што яднала ўсіх, — літаратура. Яна заўсёды натхняе, узносіць, дае сілы. Настаўнікі, метадысты, выкладчыкі, навукоўцы — кожны са сваім стылем, творчым падыходам, у рэшце рэшт, іміджам лучыліся нечым адным, блізкім, родавым. Гэта была адна сям'я са сваім вопытным старэйшым пакаленнем, энергічнымі сталымі чыннікамі, натхнёнымі маладымі. Гэтыя людзі вызначаліся сур'ёзным і цвярозым падыходам да рэчаіснасці, да сучаснага навучэнца, студэнта. Ні выкладчык, ні настаўнік роднай літаратуры, як прафесіянал, не мае права быць ідэалістам. Але ж, з другога боку, педагог павінен быць рамантыкам, які здольны захапіць дзіцячае ці юнацкае сэрца, запаланіць маладую душу, абудзіць розум. Менавіта гэта і злучала ўсіх удзельнікаў Гродзенскай навукова-метадычнай канферэнцыі. А для доказу сапраўднай рамантычнасці, той, што вызначала Купалу, Караткевіча і многіх іншых, прывяду адну фразу, што прагучала ў кулуарах пры неафіцыйных сяброўскіх размовах: "Калі такія прыгожыя жанчыны гавораць на роднай мове, навучаюць роднай літаратуры, — у Беларусі ёсць будучыня!"

Канферэнцыя стала магчымай і яе матэрыялы пабачаць свет дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы шэрагу прадпрыемстваў і арганізацый: Гродзенскага завода карданных валоў (дырэктар В. Краўчанка), Гродзенскай абутковай фабрыкі "Нёман" (дырэктар В. Арлоўскі), Гродзенскай тытунёвай фабрыкі (дырэктар Я. Альсеровіч).

На канферэнцыі выразна бачылася тая вертыкаль, агульная прастора, што паядналa ў адну адухоўленую цэласнасць вучняў і настаўнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў, вучоных і педагогаў. У сучасных абставінах такая лучнасць проста неабходна. Менавіта такое творчае паяднанне, адчуванне, што ты не адзін спрыяеш ахвярнай працы навучання роднай літаратуры, мовы, культуры, дапамагае кожнаму на сваім месцы высока трымаць паходню Беларушчыны.

**Анатоль РАМАНЧУК,**
**выкладчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы**

# Апазіцыя выбару

***Сёння госці нашай рубрыкі — вядомыя публіцысты Ігар Асінскі і Аляксандр Фядута. Напэўна, шмат каму гэта падасца дзіўным. Маўляў, якія ж яны антаганісты? У адрозненне ад выразных антыподаў Ю. Азаронка і Ю. Хашчавацкага ("ЛіМ", 26 чэрвеня), гэтыя людзі маюць шмат падобнага, яны нават зусім нядаўна былі побач — успомніце прэзідэнцкія выбары. Але, нягледзячы на сказанае, яны ў апазіцыі адзін да аднаго, у іх розныя pro et contra, а таму яны сёння — на старонках нашага выдання.***

**— Вернемся ў 94 год. Распавядзіце, калі ласка, аб тым, як вас "ушли" з "Советской Белоруссии" і што гэтаму папярэднічала?**

— Пачнём з таго, што на пасаду рэдактара мяне абраў працоўны калектыў. Гэта быў 93-ці. У той час я працаваў карэспандэнтам ТАСС у Германіі. Заставаўся б там, напэўна, і дагэтуль ("Литературная газета" прапаноўвала акрэдытацыю), але выпадкова даведаўся пра цяжкае становішча ў "Советской Белоруссии" — газета магла нават спыніць сваё існаванне. У сямідзесятых я працаваў у "СБ". Калектыў рэдакцыі планаваў правесці выбары галоўнага рэдактара. Прапанавалі прыняць удзел і мне. Было шэсць кандыдатаў, перамог я. Наклад газеты хутка пачаў павялічвацца. Падчас падпісной кампаніі на 95 год быў нават уведзены ліміт на падпіску... Не хаваю, мы, журналісты "СБ", дапамаглі А. Лукашэнку прыйсці да ўлады. Вядомы антыкарупцыйны даклад, дарэчы, напісаны Л. Маслюковай і І. Грышанам, якія ў той час працавалі ў "СБ". І надрукаваны ён толькі ў гэтай газеце. Я асабіста тройчы сустракаўся з Аляксандрам Рыгоравічам. Ён нават прасіў мяне ў выпадку яго перамогі дапамагчы арганізаваць знешнепалітычную працу. Калі пагартаць падшыўку "СБ", нельга не заўважыць, што і пасля прэзідэнцкіх выбараў мы засталіся аб'ектыўнымі. І ў гэтым, лічу, прычына маёй драмы. Мы друкавалі лісты чытачоў. У тым ліку і незадаволеных дзейнасцю прэзідэнта. Некаторыя загалоўкі маглі раздражняць Лукашэнку, хоць у іх не было нічога апазіцыйнага. Пачаліся непрыемнасці. Прыйшоў А. Фядута, казаў пра існаванне нейкага кампрамата на мяне, але публікаваць яго адмовіўся. Затым Цэпкала ад імя прэзідэнта прапаноўваў пасаду пасла Беларусі ў Германіі ці якой-небудзь іншай краіне. Я адмовіўся, каб не здрадзіць людзям, абраўшым мяне рэдактарам. А тут гэта гісторыя з дакладам С. Антончыка. Мы прынялі рашэнне друкаваць. Падкрэсліваю, гэта было зроблена ў інтарэсах Лукашэнкі. У рэдакцыйным уступе (а ён надрукаваны) гаварылася: калі факты, выкладзеныя С. Антончыкам, праўда, у прэзідэнта будзе магчымасць пакараць карупцыянераў, калі ж гэта хлусня, няхай перад законам адкажа дэпутат-паклёпнік. Аднак выйшлі "белыя плямы". Далей быў указ аб звальненні галоўнага рэдактара "СБ" "у сувязі з фінансавымі парушэннямі".

**— Указ падпісаны А. Р. Лукашэнкам...**

— Упэўнены, што прэзідэнта дэзарыентавалі. У атачэнні Лукашэнкі былі і застаюцца людзі, не зацікаўленыя ў тым, каб дзяржаўныя СМІ былі аб'ектыўнымі, падтрымлівалі Саюз з Расіяй, прапагандавалі сацыялістычныя ідэалы. Зацікаўленыя ў тым, каб чытач адвярнуўся ад дзяржпрэсы. Нельга людзям хлусіць, хаваць ад іх праўду. Гэтым, на мой погляд, занята сённяшняя "СБ", ператварыўшыся ў выданне пранатаўскае, русафобскае. Такім чынам, зняцце рэдактараў — акцыя праціўнікаў прэзідэнта.

**— Цікава, а чым не задавальняў Захад І. Сярэдзіч?**

— З ім, відаць па ўсім, іншы выпадак. Не выключаю, што ён сам падставіўся з тым лістом у рэдакцыю.

**— Вы сцвярджаеце, што П. Якубовіч, з'яўляючыся рэдактарам прэзідэнцкай газеты, праводзіць антыпрэзідэнцкую палітыку? Самі ж у друкаваным органе Саўміна падтрымлівалі апазіцыйнага дэпутата Лукашэнку.**

— Падтрымліваючы Аляксандра Рыгоравіча, мы сыходзілі з сутнасці журналістыкі, ствараючы яму роўныя ўмовы з іншымі кандыдатамі. Мы імкнуліся пісаць праўду і разважаць над ёю. Акрамя таго, я свята верыў, што А. Лукашэнка здольны вывесці з палітычнага і эканамічнага крызісу. Побач з ім былі ў той час маладыя інтэлектуалы. Што датычыць сённяшняй дзяржпрэсы, то яна антыдзяржаўная, паколькі хлусіць, не адлюстроўвае думкі ані прэзідэнта, ані народа.

**— У сваёй публікацыі "Кончен бал..." вы пішаце, што не шкадуеце аб сваёй ролі, якую адыгралі падчас выбараў прэзідэнта. Напісана гэта ў 95-м. Многае змянілася з таго часу...**

— Я і зараз не шкадую. Вось толькі расчараваны ў некаторых дзеяннях Лукашэнкі, стылі яго кіраўніцтва. Усё пра яго разумею, але альтэрнатывы яму зараз не бачу. На жаль. Нельга маўчаць і пра тое, што вакол яго поўна невукаў, якія рабуюць народ, вяжуць прэзідэнта па руках і нагах, перашкаджаючы руху наперад.

**— Вы не згодныя з тымі, хто называе Лукашэнку дыктатарам?**

— Не, дыктатар — гэта тыран, чалавек, які ненавідзіць свой народ. А Аляксандр Рыгоравіч... Мне дагэтуль верыцца, што ён шчыра хоча дапамагчы людзям.



*Ігар Асінскі*

Дыктатура была ў Нямеччыне, Чылі. Прэзідэнт выкарыстоўвае аўтарытарныя метады кіравання краінаю таму, што не давярае сваім паплечнікам. Ён не ўспрымае дэмакратычных метадаў, але гэта не віна, а бяда яго! Шмат чаго Лукашэнка робіць выпадкова, не задумваючыся. Такі характар, такі тэмперамент. Зноў жа — атачэнне падказвае. Напрыклад, няўжо цяжка было зразумець: пасля гісторыі з пасламі ехаць у Швейцарыю — самагубства? Паглядзіце, няхай кволая, але існуе свабода слова. Якая ж гэта дыктатура?

**— Апошнім часам газета "Белоруссия", заснавальнікам якой вы з'яўляецеся, шмат піша пра нейкую "пятую калону" у Адміністрацыі прэзідэнта.**

— "Пятая калона" — гэта празаходняе лобі, тыя ж сілы, якія развалілі Савецкі Саюз. Заходу непатрэбны такія астраўкі, як Беларусь, паколькі апошняя стаіць на шляху да вялікай Расіі. Прывязаць да заходняй палітыкі нашы краіны — вось мэта тых, хто прымушае прэзідэнта рабіць шматлікія крокі, якія інакш, чым антырасійскімі, не назавеш. Афіцыйная прапаганда крычыць пра збліжэнне, а насамрэч Беларусь усё далей ад Расіі. Выратаванне — у нашым сапраўдным яднанні. Першым крокам у гэтым накірунку можа стаць палітычны працэс над удзельнікамі "Белавежскай змовы". Я не заклікаю іх саджаць у турму, але юрыдычная ацэнка іх дзеянням павінна быць дадзена.

**— Як у кантэксце барацьбы за свабоду слова расцэньваць публікацыі ў "Б" А. Пятрова і Я. Росцікава, дзе У. Заматалін паўстае ледзь не лепшым чалавекам у Адміністрацыі прэзідэнта?**

— Артыкулы, пра якія вы кажаце — перадрукоўкі з іншых выданняў. Асабіста я не згодны з характарыстыкай Уладзіміра Пятровіча, але ў дадзеным выпадку я не меў права нешта правіць. Мы вырашылі перадрукаваць гэтыя артыкулы ў інтарэсах справы (выкрыцця "пятай калоны". — **Аўт.**), але ў той жа час "Белоруссия" ніколі б не змясціла на сваіх старонках заказны матэрыял Росцікава "Сподвижники и попутчики". А "Знамя юности" гэта зрабіла.

**— "Заклікі да непадпарадкавання, арганізацыя масавых беспарадкаў — нішто іншае, як барацьба з уласным народам..." Якія сродкі барацьбы прапаноўваеце вы?**

— Законныя. Ёсць незалежная прэса — карыстайцеся. Калі б апазіцыя была разумнейшая, яна б выкарыстоўвала СМІ лепей. Трэба ствараць масавыя выданні, паколькі партыйная прэса гібее. Уся дзейнасць апазіцыйных газет накіравана на тое, каб як мага балючай ударыць прэзідэнта. А мэта павінна быць іншай — стварэнне жыццяздольнага дзяржаўнага арганізма. Распрацоўка і прапаганда альтэрнатыўных эканамічных праграм. Ну і, вядома ж, трэба і ісці ў народ. Працаваць з ім, адукоўваць.

**— Рэдакцыя "Белоруссии" звярталася па падтрымку ў Фонд Сораса. Як гэта суадносіцца з палітычнай пазіцыяй газеты?**

— Фонд Сораса дэклараваў дэмакратычныя свабоды. Мы ж злавілі іх на хлусні. Ведалі, што не атрымаем грошай, але пайшлі на гэта, каб яшчэ раз паказаць: названы Фонд — не дэмакратычны інстытут.

*(Працяг гутаркі на стар. 12)*

**— Аляксандр Іосіфавіч, апошнім часам на старонках "Белорусской деловой газеты" рэдка з'яўляюцца вашыя публікацыі, хаця, здаецца, вы працягваеце займаць пасаду аглядальніка. Што здарылася?**

— Я працую палітычным аглядальнікам, я павінен аналізаваць факты, якія ўжо адбыліся і могуць выклікаць якія-небудзь наступствы. Я не рэпарцёр. Мая функцыя — не хадзіць на розныя канферэнцыі, не бегаць за людзьмі, не браць інтэрв'ю, а вось сядзець і нібыта разважаць. А што адбываецца ў краіне? Мёртвы сезон. Суцэльнае зацішша. Напрыклад, я пісаў пра палітвязняў — з таго часу нічога не змянілася. Сам факт арышту альбо вызвалення Севярынца можа атрымаць аналізаванне адзін раз, далей — ужо не тое. Мая задача — каментаваць. Калі няма значных падзей, падстаў пісаць я не маю. Прэзідэнт і астатнія палітыкі б'юць мяне, як гаворыцца, ніжэй пояса. Таму што я не атрымліваю ганарараў, бо пісаць няма пра што.

**— Няўжо ў нас бываюць і нават надыходзяць дужа часта гэтыя "мёртвыя сезоны", што адмоўна адбіваюцца на змесце айчыннай перыёдыкі?**

— На жаль, бываюць. Узгадайце першыя паўгода пасля падзення Вярхоўнага Савета 13-га склікання — тады проста не было пра што пісаць. Нічога не адбывалася. І гэта не быў шок. Проста падзей не было, не было інфармацыі, інфармацыйных нагодаў. Тое ж самае зараз. Ну ёсць адзін ньюсмейкер на ўсю краіну. Але паглядзіце, якая колькасць людзей таўчэцца на полі, вызначаным гэтым ньюсмейкерам. І людзі ўсе разумныя. Дракахруст, Шаўцоў, Дорахаў (гэта толькі ў нашай газеце). Што можна новага сказаць у параўнанні з тым, што, дапусцім, скажа Юрый Аляксандравіч Дракахруст? Нічога.

**— З нядаўняй пары вы сталі яшчэ і рэпарцёрам "Московских новостей"...**

— Я не рэпарцёр, а ўласны карэспандэнт па Беларусі.

**— А як, цікава, пачуваецца колішні кіраўнік Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі на месцы звычайнага карэспандэнта ў замежным выданні?**

— Абсалютна нармальна. У мяне складаная біяграфія. Так, спачатку я быў школьным настаўнікам. Потым стаў сакратаром ЦК камсамола. Праз дзевяць месяцаў заняў пасаду першага сакратара ЦК Саюза моладзі, прычым зусім гэтага не жадаючы. Далей на два месяцы ператварыўся ў беспрацоўнага. Пасля гэтага ўзначаліў УГПІ. І зноў стаў беспрацоўным... Нармальна я сябе адчуваю ва ўсіх ролях. Самае галоўнае, не хлусіць самому сабе. Бо як толькі пачынаеш хлусіць, адразу трэба мяняць працу.

**— Ведаем, што вы збіраецеся паўдзельнічаць у выданнях "Беларускага кнігазбору".**

— Так. Я сам завітаў да спадара Цвіркі і прапанаваў свае паслугі. Справа ў тым, што я кваліфікаваны спецыяліст па гісторыі рускай літаратуры пушкінскай эпохі. У мінулым годзе абараніў па Пушкіну дысертацыю. Калі прагледзеў праспект "Беларускага кнігазбору", то ўбачыў там два пункты, якія мяне вельмі цікавяць — Булгарын і Сянкоўскі. Паколькі я ўсё роўна буду гэта вывучаць, чаму тады не прапанаваць у дапамогу свае паслугі чалавеку, які робіць рэальную справу? Ствараецца сапраўды новая беларуская класіка, бібліятэка беларускай літаратуры. Такога яшчэ не было. Дарэчы, я мушу займацца гэтым на безганарарнай аснове, бо дастаткова зарабляю, "паклёпнічаючы" на родную краіну, каб не патрабаваць грошай у фактычна дабрачыннай арганізацыі.

**— Выключна дзеля самазадавальнення?**

— Так. І каб не губляць кваліфікацыю. Вельмі не хочацца ўвайсці ў гісторыю толькі чалавекам, які кепска пісаў пра Аляксандра Рыгоравіча.

**— Хіба ж толькі пра яго?..**

— Не толькі. Яшчэ і пра Зянона Станіслававіча. Я б пажадаў увайсці ў гісторыю тым, хто, напрыклад, першым добра напісаў пра Булгарына. Прычым, пра Булгарына як пра беларуса.

**— Чаму?**

— Бо сітуацыя булгарынская надзвычай цікавая. Гэта чалавек, які бараніў суверэнітэт Рэчы Паспалітай, дзе Беларусь была некаторым чынам самастойнай дзяржавай, са зброяй у руках у напалеонаўскіх войсках. І толькі трапіўшы ў палон (ён не перайшоў на бок Расіі), сапраўды стаў расійскім падданым. Атрымаў амністыю, але увесь час павінен быў загладжваць правіну. Пачаў займацца журналістыкай, актыўнай публіцыстыкай. У гэтай якасці апынуўся ў Пецярбурзе, дзе ў кола ягоных знаёмых уваходзілі многія дзекабрысты, Грыбаедаў і іншыя.



*Аляксандр Фядута*

**— Выбачайце, але асоба Фадзея Булгарына агульнавядомая ў нас як адмоўная, прынамсі, не дужа прывабная.**

— Той Булгарын, які існуе ў школьных падручніках, не складае нават сотай часткі ад таго, чым быў Фадзей Бенедыктавіч. Ён не пісаў даносаў, а пісаў гэтак званыя аналітычныя запіскі. Супраць Пушкіна ён выступаў толькі тады, калі той спрабаваў займацца журналістыкай. Гэта выпадкі нармальнага спаборніцтва, канкурэнцыі. Да таго ж, Булгарыну не заставалася іншага выбару — ён пастаянна павінен быў апраўдвацца, адстойваць добранадзейнасць. Дзеля таго, каб захаваць хаця б уласны выдавецкі бізнес. Аднак і пры гэтым ашчаджаў сваю годнасць. Як дзёрзка ён мог гаварыць з Бенкендорфам! Булгарын захоўвае ў сябе архіў пакаранага Рылеева (ужо адно гэта пагражала смерцю), неапублікаваны рукапіс "Гора ад розуму", некалькі разоў спрабуе пераадолець цэнзуру, каб выдаць гэты твор, увесь час папулярызуе таго ж Грыбаедава ў сваёй "Северной пчеле". Яшчэ Булгарын — аўтар першага рускага бестселера "Іван Выжыгін", менавіта ён прыдумаў вядомы тэрмін "натуральная школа". І галоўнае — пры гэтым Булгарын адчуваў сябе беларусам. Я чытаў выказванні пра яго выдаўца "Русского вестника" князя Мяшчэрскага: "Які ж ён беларус, калі служыў супраць Расіі?! Які ж ён беларус!" А Булгарын сапраўды беларус!

**— А што вы канкрэтна будзеце рабіць для "Беларускага кнігазбору"?**

— Сёння я рыхтую каментарыі да ўспамінаў. Напрыклад, узгадваецца зараз цудоўная сцэна ў першым томе. У дом да Булгарыных прыходзіць неяк граф Ферзен, камандуючы войскамі, якія бралі чынны ўдзел у задушэнні паўстання Касцюшкі. Маленькі Тадэвуш гуляў з медалямі Ферзена, і ўвогуле той яму падабаўся. І кажа госцю: "Дзядзька, я не буду цябе забіваць, нават калі мне дзядзька Касцюшка загадае!" У шэсць з паловай гадоў! Ён ужо ўсведамляе, што перад ім вораг, які адабраў незалежнасць яго краіны... Гэта таленавітая, энергічная, эвалюцыйная, значная асоба. Дастаткова толькі сказаць, што яны разам з Сянкоўскім на дзве трэці стварылі расійскую масавую журналістыку. Беларусы стварылі.

**— Вось вы багата і імпэтна распавядаеце і міжволі складваецца ўражанне, што відавочна праецыруеце постаць Булгарына на цяперашнюю сітуацыю. Гэта так?**

— Безумоўна. Булгарын у мяне асацыіруецца з Паўлам Якубовічам. Становішча ў Паўла Ізотавіча таксама трагічнае. Змагаўся на баку "напалеона" (быў дэмакратам). І вось пацярпеў паражэнне, трапіў у палон. Не здаў аніводнага свайго сябра, не адмовіўся ад аніводнага знаёмства. Калі загінуў Анатоль Майсеня, то надрукаваў некралог у прэзідэнцкай газеце і падпісаў уласным імем. Аднак, з другога боку, ён пастаянна вымушаны апраўдвацца. І, апраўдваючыся, як Булгарын, заблытаўся і стаў ворагам для ўсіх. Апынуўся амаль у суцэльнай ізаляцыі.

*(Працяг гутаркі на стар. 12)*

# ЧАС ВАЎЧЫНЫХ ВЯСЕЛЛЯЎ

Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ

АПАВЯДАННЕ

СКРОЗЬ ЦІШ і немата. Калі б не ліхтар ля фермы і другі супраць Цярэха Крыўца, то здавалася б, што вёска вымерла.

“Як у магіле, — насупіў бровы Сяргей Шырачка. — А яшчэ ж змеркла вобо, яшчэ ўвесь вечар уперадзе, а за ім — ноч, доўгая, пакутлівая”.

Сяргей задратаваў кірзачамі, хрумстка затаптаўся ля вугла, выпускаючы клуб пару, шумна ўздыхнуў. Самотна і нудліва Сяргею. Адзін-адзінюсенькі Сяргей застаўся. Нікогачкі ў яго няма. А меў жонку і двух сынкоў. Быў вясёлы і шчаслівы. Ён тады механізатарам зарульваў — сеяў, жаў. Але пасля злосна лёс пасмяяўся з яго. Тым памятным летам, убіраючы пшаніцу, паягліўся Шырачка на калгаснае дабро — загнаў за самагонку Хвядосу Базылевічу паўбункера зерня. Загнаць — загнаў ды слядоў не замёў: засвяціўся — людзі ўсачылі і прадалі. Ну і ўшпілілі яму траяк. Вярнуўся дадому — замкнёная хата. Пакінула яе сям’я. Пераманіў супольніцу брат стрыечны, Грышка-крымінальнік, які неўзабаве, як Сяргея пасадзілі, прыйшоў з турмы, якога ўзялі за пастуха і фуражыра на комплекс, дзе даіла кароў Сяргеева Галя і дзе яны адразу ж знюхаліся. Два гады з гакам Сяргей бабылём. Да тэхнікі яго не падпусцілі. Дазволілі, балазе свабоднай аказалася пасада, даглядаць цялят.

Мароз не ападаў. Мароз, наадварот, мацнеў, аблішайваў шурпатым інеем слупы, дрэвы. Ад Буднікаўскага гіблага, страшэннага сваёй непрыветнасцю, пры ўпарадкаванні палёў заваленага выкарчаваным кустоўем, валунамі, зарослага крапівой ды храбусткім лубінам рова, куды звычна Сяргей, каб не дзяўбсці ўчыгуненую зямлю, скідваў паўшых бычкоў і цёлачак, мінаючы які няхай летам, няхай зімой, храплі, білі ў хамут, пудліва шарахаліся коні, вуха ўлавіла працяглае выццё.

“Ваўчыца ачнулася, — сцепануўся ад раптоўнай жуды. — Ваўка ейнага пазалеташняй восенню Хвядос Базылевіч застрэліў, — згадалася. — Пэўна, жаніха сабе шукае, - падумаў. — Зараз самая пара ваўчыных вяселляў”.

Няўрымсліва тоўкся, развважаў — да каго б падацца і змарнаваць час. Да Танечкі Паневіч? Не! Схадзіў у аўторак. Спадзяваўся выпіць у яе (прывалок жа ёй траха не мяшок мукі з фермы). Прыйшоў, памкнуўся пагрукаць, ды замест таго няведама чаму, чаго не рабіў ніколі, раскірэчыўся перад акном, зіркнуў паўз фіранку ў пратаіну і здранцвеў: угледзеў стол, на стале пустую пляшку, дзве шклянкі, міску гуркоў, хлеб, а сярод канапкі ўбачыў заголеную Танечку і навіслага над Танечкай Славіка Царука — здаравеннага, губатага, з шырока пастаўленымі вадзяністымі вачыма, з бугравател мурлом, выскалястага, гагатлівага, пра каго казалі, што ў яго не хапае клёпкі ў галаве, трыццацігадовага халасцяка. Хоць Танечцы і пераваліла за пяцьдзесят, ёй з-за яе па-хлапецку шчуплявай постаці, з-за канапатага абсеўранага твару з заўжды падмаляванымі броўкамі, давалі сорак. Гадоў дзесяць таму, пахаваўшы свайго Мішу-тапельца, яна прывячала ўсіх, пачынаючы ад дапрызыўніка Віцькі Шчэрбы і канчаючы блудлівым жыватастым пенсіянерам Хвядосам Базылевічам. Ашаломлены, дробна ляскаючы зубамі ад рэўнасці, бо лічыў Танечку адной сваёй, момант Сяргей хаўкаў ротам, затым, бы прашыты чымсьці вострым, зморшчыўся, застагнаў, пацёгся паўз сеначкі; дабрыў да хлеўчука, апусціўся на складзеныя пад ім альховыя пацарубкі.

Нерухоміў, пакуль не адубеў ушчэнт, пакуль, п’яна ікаючы, не вываліўся на вуліцу і не паківаўся дамоў Славік Царук. Тады здрыгануўся, зверавата рынуўся да Танечкі. Уварваўся, ударыў яе раз, другі па твары і марсянуў прэч.

“Не пусціць цяпер Танечка, — абвяў імгненна. — Не даруе”.

Ён падпёр спіной сцяну, пашкроб патыліцу: суседку Фрэньку, хіба, ашчаслівіць, паслухаць Фрэньчыны наракaнні на ейныя шматлікія хваробы? Дык святла ў Фрэнькі няма. Відно, уляглася ўжо крактуха. Рыжага Аўласа наведаць? А толку — глухі Аўлас, як палена. Не пагамоніш з Аўласам. Толькі глотку надзярэш, крычучы яму ў валасатае вуха. То к каму ткнуцца? К Базылевічу? У-гу! Пра яго і мысліць нельга. Грукай, не грукай — не азавецца куркуль. Хвядос нават днём рэдка адчыняе каму. Не любіць Базылевіч людзей.

Зноў падала голас мацёрая. Яго тут жа ўчуў, грымнуў ланцугом і завішчэў, аднак не баязліва, а быццам бы пажадна Крыўцоў, нейкі родзіч аўчаркі, плюгаваты Мухтар, затое сярдзіта загаўкала з-за высознага паркана Базылевічава наколькі лютая, настолькі і палахлівая Знайда.

“Сцягаюся да Цярэха! — страпянуўся Шырачка. — З Цярэхам і Пёклай душу адвяду”.

Сяргей памкнуўся ныкнуць па замок, але перадумаў: каму і што ў яго красці; накінуў усяго на прабой чэпель і падыбаў праторанай напрасткі праз гарод сцяжынай, якая паката кіравала ў лог, а там, за логам, выкарасквалася на вуліцу.

Ярка вытарэшчваліся, бы скалелыя, трэсліся, калюча мігцелі зоркі і зорачкі. Прарэзлівы рып настылага спрасаванага снегу абуджаў бязмоўныя далечы і, мроілася, аддаваўся аж пад Млечным Шляхам.

Мухтар стрэў незласліва. Яўкнуў дзеля адчэпкі і зняважліва адвярнуўся, задраў угору чорную пысу, прызыўна заскавытаў.

Нягледзячы на ранні час, хоць і не зачыняліся яшчэ, Крыўцы ўжо, калі меркаваць па перакуленых уверх дном ускрай шафкі каструлях, паспелі павячэраць і збіраліся класціся спаць: сівы, як лунь — белая ўскудлачаная чупрына, ад скроні да скроні адскочаная белая пруткая шчэць, у расхрыстанай аўчыннай душагрэйцы, у пацёртым трыко-споднiках, у каротка абрэзаных валёначных атопках Цярэх укленчваў перад разяпленым шчытом і жалезнай качаргой варушыў, перыў буйны чырвоны жар, а вусатая мажная Пёкла рассцілала ложкі.

— Добры вечар! — знарок бадзёра павітаўся Шырачка.

— Добра лечаць, ды маладымі мруць, — не разгінаючыся, шумархнула старая коўдрай.

Сяргей, форменна не заўважыў колкасці, абы не маўчаць, жадаючы згладзіць няёмкасць і неяк разгаварыцца, ці то спытаў у Цярэха, ці то паведаміў яму:

— Ці не таго, Храловіч, ці не здурнеў на прывязі твой Мухтар.

— Чаго? — праз плячо, прадаўжаючы шураваць у топцы, няўцямна блiснуў бялкамі Крывец.

— Ён жа ваўчыцы азываецца. Тая ля Буднікаўскага яра скуголіць, а гэты тут шалее.

— То ж пераклікаюцца злыдні. Яны яшчэ летась спеліся. Спярша Мухтар сярод падворка агульваў шэрую, а як я папудзіў яе, сарваўся і ў палёх круціўся з ёй. Паўтара тыдня не паказваўся. Думаў — хана шкарадзі. Думаў — сажрала мілуха. Аж — не: вярнуўся. Ледзь жывы прыцёгся. Хілы, сухарэбры. Да самага разводдзя валяўся пад будкай, ачуньваў.

— Ну даеш, Храловіч! — скарожыла хударлявае няголенае Сяргеева аблічча ўхмылка. — Не ведаў, што воўк і сабака хаўрусуюць.

— Па-твойму — маню?! — досыць жвава ўскараскаўся Крывец.

— Загінаеш! — рашуча заявіў Шырачка. — Лухту пляцеш!

— Пабажыцца?

— Не варта.

— Я таксама нікому не паверыў бы, калі б сам не пабачыў.

— Завязвай! Хопіць паражняк гнаць!

— Дай даказаць. Тады выскаляйся, чорт шчарбаты. Паслухай спачатку. Выправіўся я перад Пакровам у Буднікаўскі карчы нарыхтоўваць. Сонейка, памятаю, свяціла, ветрык падзмоўваў. Прышлэмаў ета і толькі намыліўся сухаллё патлашыць, як з-пад гары гырканне і брэх пачуў. Здзівіла мяне: няўжо шчанюкі?! Адкуль? Не рассусольваючы надта, пакраўся між хмызоў. Далей, далей. Крокаў дваццаць адмераў. Нарэшце прыпыніўся, разгарнуў вычаўраны скрыпатнік і супраць чорнай зеўрыны прыкархнулую ваўчыцу ўпас і сярод галявіны трох разшышэлых ваўчкоў — не ваўчкоў і сабачанят — не сабачанят убачыў.

— Хочаш сказаць, — уразіла Шырачку, — Мухтаравы яны?!

— Чые ж? Канечне, — узгарэўся Цярэх. — Мухтар век любоўніцы не меў і ваўчыца адна засталася. Вось і сасваталіся.

— Два заклятыя ворагі?!

— Жывёлы — стварэнні вушлыя. Цямяць, што робяць. Шкада — людзі не петраюць етага і паводзяць сябе дурней за іх.

— Во знайшлі размову! — не выцерпела, усклікнула Пёкла і скамандавала: — До вам, тлумакі, турлычыць. Марш, стары балабол, кладзіся. А ты, паўночнік, вымятайся, — цыкнула на Сяргея. — Калі жмульнуць заманулася, то няма ў нас гарэлкі.

— Я і не прашу, — паспрабаваў бараніцца Шырачка. — Не прагну вельмі.

— У такім разе — хадзем, — грэбнула яго за рукаў Крыўчыха. — Зачыняцца буду, — папхала перад сабой. — Ідзі! — рыгнула за спіной засовам.

Ачомаўся ўжо сярод вуліцы.

“Пабалакаў, называецца, развеяў нуду, — набакірыў шапку і скрушліва пашкроб за вухам. — Як цюцьку выперлі. Куды цяпер, к каму сунуцца? К Паневіч... к Танечцы? А што? Пусціць, не пусціць — пашпару!”

Яшчэ зводдаль заўважыў святло ў Танечкі. У чарнільным мораку вечара ўскрай чорнага сілуэта ссутуленай хаціны цяплілася акно на адной кухні.

“Не завалілася Танечка ў пер’е! — усцешыла. — Юшыцца пакуль”.

Пацвеліла кіславатым дымком альховых дроў і церпкім хмелем брагі.

“Балбатуху чамадурыць! — абрадаваўся. — Пан ці прапаў — зазірну! Перападзе, дасць Бог, чарка!”

Каб не ўгледзела, не ўчула каб, паціху пашчаміўся праз засумёчаныя веснічкі.

Па-зладзейску падкраўся, знямеў пад прызбай, выцягнуў шыю, надыбурыўся — ні голасу, ні зыку. Прыступіўся да шыбы, затанцаваў. І так, і гэтак прыладжваўся — не відно нікога.

Не марудзячы больш, прыгнуўся. Налэпаў танклявы пруток, гоцкнуў да вушака, саўгануў галінку ў дзірку між дзвярэй, тарганyў іх рэзка, адкінуў крук, паклымаў цемраю ўздоўж сцяны, намацаў клямку.

Танечку ані не здзівіла ягонае паяўленне, але і не ўсцешыла.

— Хто прасіў? Чаго прывалокся, блатнюк? — плюснула яна заплылым вокам.

— Цябе даўно бачыў, — хмыкнуў дурасліва.

— Мала аднаго ліхтара — другі зажадаў прыпячатаць?

— Адшый Славіка-бугая — век не чаплю.

— Ты мне не ўказ. Я табе не жонка. Галю сваю чыхвосці. Вымятайся, гад!

— Налі — тады, — прашаптаў Сяргей.

— Смалы!

— Ну прашу!

— Здыхаеш? Каласнікі гараць? Ладна. На, жмуляй, апражыся! — не то пашкадавала Шырачку, не то ўспомніла пра муку, прынесеную ім, і, наважыўшыся разлічыцца, напоўніла шклянку. — Глыкай і закусвай, — указала кіўком чэрствы акраец і талерку мёрзлай, багата прыпраўленай кменам, капусты, — ды правальвай!

Сяргей дзугнуў табурэткай і, не знімаючы шапкі, грэбнуў мутны, не астылы напой.

— Будзь, — пажадаў Танечцы здароўя.

— Цьфу! Пайшоў ты! — адмахнулася тая. — Куляй ужо, дабрадзей.

Самагонка напачатку падалася мяккай, а таму і слабай. Аднак хвіліны праз дзве-тры, мабыць, што прытравіў усяго для прыліку, мляўкая цеплыня запоўніла нутро.

“Хлебная — і ё хлебная”, — рассаладзеў прыемна.

Сам таго не скмеціў, дастаў цыгарэту, са смакам закурыў.

— Канчай капціць! — вызверылася гаспадыня. — Атрымаў сваё і кацiся к чортавай мацеры!

— Плюхні яшчэ.

— Насос! І не захлынешся?!

— Пераксціся! Чым? Нейкай кропляй?

— Хрэн з табой. Бяры!

— От ета голас! Дзякуй!

Не пракаўтнуў лыжку квашаніны — загула ў сенцах падлога, лясканyў слясак, і ў пройме паказаўся Царук. Ягонае вуграватае, заўжды сіняе аблічча з вуліцы было фіялетавым.

— Бля! І ты, падла, тут?! Кіраеш? Пасунься. Дай і я мэкну. Люблю халяву, г-гы-гы-гы!

Грузна Славік гупнуў насупраць, коўзнуў пад сябе парожні Сяргееў пасудак, размашыста нагнуў над ім папалавінены слоік.

— Стой! Праз край бухторыш. Аслеп? — зарвала Танечку. — Буркалы пратры.

— Не млей! Не дадзім прапасці дабру.

Нахаба кульнуў стопку і нізка згорбіўся, аддудзіў, хобатам выцягнуў вусны, гучна сербанyў разам з паветрам лужынку самагонкі, затым выпрастаўся, выскаліў няроўныя зубы, між якіх завязлі, хоць ката запускай выдзіраць, рэшткі ежы.

— Парадак у танкавых часцях, г-гыгы-гы! Дарэмна баялася, бля. Хіпіш узняла. Смярдзючкі пашкадавала?

— Нягош не, — упхнула Паневіч у карыта са змеевіком вялізны ком снегу. — Яна ж не плыве ракой.

— Госцю не рада?

— Апрыкрылі вы, кабялі!

— Зноў з бабром гэтым яшкаешся? Не растанешся? Відно, трэ разлучыць вас. Палічу-тка яму рэбры!

— Ну, ну! Цішэй на паваротах! — уздрэнчыўся Сяргей. — Паспрабуй! — хіснуўшыся, ікнуў.

— Просіш?! Н-на-а! — мякнуў Славік кулаком у пераносіцу. — Трымай!

Шырачка не ўспрыняў болю. Адно ўлавіў, як з вачэй пырскнулі каляровыя іскры, і адчуў, як штось ліпкае пакацілася па барадзе, пацякло за каўнер. Ён боўтнуўся, наважваўся рухнуць. Але яго ў час цапнуў Славік і патарабеніў за парог; вывалак вон, пхнуў з ганка.

— Праспіся, бля! — гыгыкнуў і памкнуўся ісці назад ды раптоўна запыніўся, крэкчучы, расплікнуў штаны, пусціў тугі струмень. Акурат токам сцебануты, Сяргей тухануўся ўбок, ускараскаўся, подбежкам пачыкіляў прэч.

— Не паказвайся, казёл, сюды! — данеслася наўздагон.

— С-сабака! — скрыгнулі Сяргеевы зубы. — Пачакай жа... пачакай, — узняліся і спакваля апусціліся грудзі.

Брыў, ківаўся; крок управа рабіў, крок улева.

На лозе ён спусціўся са слізкага насцілу, урохаўся ля глянцавай журклівай крынічнай вымоіны па пахі ў рыхлы між хлібкага лазняку снег, дастаў амярцвелымі нагамі шлакатлівай вады.

— О, мілата! — змружыў ад задавальнення вейкі.

Аднекуль зблізку данеслася выццё ваўчыцы.

“Да Крыўцовага Мухтара падбіраецца, паганка, — мільганула леная думка. — На любошчы зазывае”.

Хоць дзесь быў яшчэ вечар і не спалі дзесь людзі, а над вёскай навісла ўжо глухая ноч.

на беларускай сцэне вядомым мэтрам тады яшчэ савецкага балета П. Гусевым. Зусім маладзенькая балерынка, толькі яшчэ на пачатку сваёй артыстычнай кар'еры, Таццяна арганічна ўпісалася ў спектакль, намаляваўшы партрэт непаседлівай і бойкай, не абцяжаранай асаблівымі маральнымі прынцыпамі, але бясконца спакуслівай дзяўчынкі. З-за лёгкасці сюжэта і непатрабавальнасці харэаграфіі "Прывал кавалерыі" тады называлі маленькім жартам вялікага майстра. Але праз нейкі час прыйшло разуменне таго, што М. Пеціпа ставіў гэты балет усур'ёз, адлюстроўваючы эстэтычны менталітэт свайго часу. Тое ж, дарэчы, ён рабіў і ў "Раймондзе" А. Глазунова, нядаўна пастаўленай у версіі Ю. Грыгаровіча на сцэне нашага тэатра.

Дык вось, калі глядзіш гэтыя спектаклі сёння, то заўважаеш, што за два дзесяцігоддзі, пра мінулыя з дня прэм'еры "Прывалу кавалерыі", моцна ўзмужнела балетнае мастацтва, узмужнелі артысты, усе мы. Мы сталі сведкамі і ўдзельнікамі падзей канца 20 стагоддзя, а балет гэты нібыта застаўся ў 19-м.

Агульнавядома, што спектаклі, як і людзі, старэюць, паміраюць і нярэдка назаўсёды пакідаюць сцэну. Так было, скажам шчыра, з большасцю балетаў Пеціпа. Перайсці гэты нябачны, але абавязковы бар'ер часу дадзена толькі шэдэўрам усіх часоў і народаў. Такіх, блізкіх да дасканаласці, балетаў зусім няшмат. Баюся, што ні "Прывал кавалерыі", ні "Раймонда" да іх не адносяцца. Дарэчы, найаўтарытэтны ў праблемах музычнага тэатра рэжысёр Б. Пакроўскі пісаў пра чарговую пастаноўку "Раймонды" ў Маскве як пра малацікавую для нашага часу. Знешні поспех яе ён тлумачыць прычынай, паводле якой трэснутую старадаўнюю вазу шкада выкінуць, а таксама настальгіяй гледачоў па спектаклях "проста прыгожых" і свабодных ад праблем. "Аднак гэта заўсёды часовая з'ява, — заўважаў ён. — Настае час, і бяздумны спектакль пачынае выклікаць толькі прыкрасць. Ён старэе".

Мо для "Прывалу кавалерыі" і "Раймонды" такі час настаў? Пакінем за межамі сённяшняй размовы прычыны, паводле якіх гэтыя пастаноўкі ажыццявілі старэйшыны былой савецкай харэаграфіі П. Гусеў і Ю. Грыгаровіч, заўважым толькі агульнавядомае: за гальванізацыю старога бяруцца звычайна тады, калі пакідаюць новыя ідэі. Істотна, аднак, тое, што такія спектаклі мала адпавядаюць цяперашняму запатрабаванню ўдумлівых гледачоў, знаёмых з ярка відовішчнымі і ў той жа час глыбока змястоўнымі, філасофскімі балетамі В. Елізар'ева. (Праўда, заўсёды знойдуцца людзі, якія прыходзяць у балет менавіта дзеля таго, каб забыцца на розныя праблемы. Менавіта яны, ды яшчэ школьнікі, — асноўная глядацкая аўдыторыя такіх спектакляў). Несувымерныя яны і з такімі акцёрамі, як Т. Шаметавец. Артыстка відавочна "перарасла" сваю Тэрэзу з "Прывалу кавалерыі" і выглядае сёння ў гэтай ролі дарослай жанчынай, якая апранула дзіцячы фартушок і гуляе ў дзіцячыя гульні. Так, як і семнаццаць гадоў таму, яна па-ранейшаму цудоўная і прывабная. Але яна выглядае чалавекам 20 стагоддзя, а балет гэты застаўся ў 19-м. Тэатр жа, вядома, не музей, і кожны твор, каб выжыць на сцэне, павінен пастаянна абнаўляцца, суадносячыся са сваім часам. Бо за мінулыя сто гадоў у харэаграфіі неаднаразова мяняліся мэты, крытэрыі, прынцыпы.

Насамрэч, пасля доўгага пройдзенага харэаграфіяй часу з'яўленне на сцэне "Прывалу кавалерыі" ды "Раймонды" здаецца пэўным анахранізмам. І як тут не прыгадаць даўнія кепікі М. Салтыкова-Шчадрына з самаадданага пастаянства і кансерватызму балета ці з'едлівыя заўвагі У. Маякоўскага наконт вясёлых жыўчыкаў на вясёлых ландшафціках і падпарадкаванасці балета патрабаванню абывацеляў "зрабіць ім прыгожа".

Не дзіўна, што артысты ўзроўню Т. Шаметавец самарэалізуюцца не ў "Прывале..." ці ў "Раймондзе", а ў спектаклях, саштукаваных паводле іх індывідуальных мерак і лекал. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што гэтая артыстка разам са сваім партнёрам, унікальным акцёрам У. Івановым у балеце М. Равеля — В. Елізар'ева "Балеро" выявілі сябе з гранічнай мастацкай сілай. І яны сталіся ідэальнымі выканаўцамі, бо арыгінальную канцэпцыю харэографа, які пачуў у партытуры Равеля тэму нарастаючай пагрозы і супраціўлення ёй, раскрылі з вычарпальнай паўнатой.

Прыгадайма, як разам з першымі гукамі тэмы "Балеро" ў промні пражэктара з'яўляецца фігура жанчыны ў чырвонай пілотцы. Яна павольна падымаецца з зямлі, і падаецца, быццам гэта маленькі агеньчык сцелецца і паступова набірае сілу, сілкуючыся тым, што яго акружае. У танцы Т. Шаметавец, які пакрысе набывае гучнасць, чуюцца і затоеная трывога, і напружанасць пошуку, і нарастаючы гнеў. На яе пластычны голас адгукаецца другі, мужчынскі, поўны рашучасці і сілы. Але гэты дуэт — не пра каханне. Героі глядзяць не адно на адно, яны глядзяць наперад; выкінутыя наверх у характэрным і знаёмым жэсце рукі са сціснутымі кулакамі азначаюць пратэст і імкненне да перамогі. Цёмная варожая сіла прыціскае змагароў да зямлі, ламае пластыку. Рассейваюцца, але зноў паўстаюць шэрагі супраціўленцаў. А на авансцэне — Ён і Яна. Героі Т. Шаметавец і У. Іванова нібыта пракладаюць шлях для тых, хто ідзе ўслед. Яны гатовы на барацьбу да канца, і іх танец насычаны гарачай лютасцю і адначасова халодным бясстрашшам. І здаецца, што шматгалосы пластычны хор падвойвае сілу гучання мелодыі, што разгортваецца ў аркестры грандыёзным крэшчэнда.

Збіраючы матэрыял для гэтых нататак пра Таццяну Шаметавец, я раптам нібыта наноў убачыла вокладку сваёй кнігі "Белорусский балет в лицах". На ёй Таццяна — у спектаклі "Балеро". Мабыць, гэта быў сімвалічны выбар з мноства фотаздымкаў? Яна тут — быццам спыненае на імгненне полымя. Цяжка знайсці больш моцнае выяўленне вогненнай стыхіі танца!

Так, вобраз мужнай, гераічнай асобы — яшчэ адна грань артыстычнай індывідуальнасці Таццяны Шаметавец, шматграннай і, спадзяюся, яшчэ не вычарпанай да канца. Крытыкі не раз пісалі, што для яе можна і трэба спецыяльна ставіць балеты. Я магу пераканана дадаць: на яе спектаклі спецыяльна трэба хадзіць!

**Юлія ЧУРКО**

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

---

прапанавала для праслухоўвання па тры творы)... А мне хацелася слухаць яшчэ і яшчэ... Я ўслухоўвалася ў зладжанае, гарманічнае гучанне добра пастаўленых, адшліфаваных дзявочых галасоў і ўяўляла, як гучалі яны ў адным з Неерпельдскіх касцёлаў, як выводзілі поўную глыбіннага святла мелодыю гімна "Іжэ херувімы", як весела разліваліся ў жартоўных "Мідыях па-брусельску", і велічным рэхам шматгалосся напаўнялі гатычныя скляпенні, выконваючы "Сялянскія падблюдныя" І. Стравінскага... І Брамс, і Часнакоў, і наш У. Дамарацкі могуць сапраўды заварожваць, калі хорам кіруе Майстар... Альбо Вучань Майстра, хацелася дадаць мне пасля экзамену. Быў цудоўны тактоўны акампанемент Таццяны Градковай, быў зладжаны хор, але, галоўнае, усё ж, быў Дырыжор. Гэта ён, дырыжор, мусіў то скіроўваць галасы да адной-адзінае ноты, прыцішваць да паўшэпту, то даваць галасам поўную волю, рассыпаць іх цэлым феерверкам фарбаў...

Мне даводзілася слухаць хор Беларускага каледжа мастацтваў і раней, на розных сцэнах, у тым ліку, і на сцэне Белдзяржфілармоніі. І я ўжо заўважыла, як меладычна, менавіта мякка і меладычна кіруе ім Галіна Цітова. Але толькі на экзамене, назіраючы за маладымі выпускніцамі не са спіны, а твар у твар, я адчула, як цяжка дасягнуць мяккасці, лёгкасці гучання. І ў нейкае імгненне Дырыжор падаўся мне факірам, які сваімі рухамі здольны заварожваць, замаўляць стыхію шматгалосся, выклікаючы з яе толькі патрэбныя, абсалютная чыстыя гукі...

— Каб дасягнуць поспеху, трэба вельмі шмат працаваць, — сказала пасля экзамену Галіна Цітова, — Дырыжор мусіць добра ведаць і любіць кожную партыю. У хоры кожны голас захоўвае свой тэмбр, свой характар, але ўсе іх трэба натуральна спалучаць, яднаць у шматгалоссі...

Толькі слухаючы харавыя спевы, разумееш, што менавіта тэмбр, сіла чалавечага голасу здольныя надаць кожнаму гуку святла і цеплыні. Часам нават здаецца, што ноты, мелодыі раптам набываюць колеры, іх бачыш, адчуваеш скурай, ім спачуваеш, імі захапляешся... Да слёз.

Дарэчы, навучэнцы Беларускага каледжа мастацтваў практычна ніколі не вяртаюцца з фестываляў і конкурсаў без узнагарод. Гэтай вясною атрымала II прэмію на конкурсе з паэтычнаю назвай "Маленькі прынц" у Геленжыку вучаніца 5 класа піяністка Алена Цыгалка (клас Таццяны Сергіеўскай).

Але, як кажуць выкладчыкі, яны, на жаль, не заўсёды маюць інфармацыю пра ўсе цікавыя конкурсы і фестывалі. Ды і каб паехаць на іх, даводзіцца шукаць немалыя сродкі.

Рызыкнём нагадаць адказным работнікам нашых міністэрстваў і ведамстваў, адну акалічнасць. Дзяржаўны экзамен — гэта экзамен для выпускнікоў. А вось кожны Міжнародны конкурс — экзамен для ўсёй нашай краіны. І калі ёсць хоць якая магчымасць, варта парупіцца, каб здаць яго на выдатна. У нас ёсць таленты. І пра іх мусяць ведаць у свеце.

**Галіна БАГДАНАВА**

*На здымку: хор Беларускага каледжа мастацтваў пасля выступлення.*

---

ТЭАТР

# І Бога не трэба баяцца

***У скрутны час адмаўлення ад былых ідэалаў, наступу заходняй эрзацкультуры, самымі неабароненымі сталі нашы дзеці. Бесперапынная плынь відэа і тэлевізійных, пераважна амерыканскіх мультсерыялаў, дзе пераважае жорсткасць, забойствы і культ матэрыяльнага дабрабыту, кропля за кропляй атручваюць дзіцячыя душы. Па сутнасці, сёння адбываецца ломка і глабальная пераарыентацыя традыцыйных для народа духоўных каштоўнасцей. Процістаяць гэтай небяспечнай навале, як нішто іншае, здольна мастацтва і, магчыма, у першую чаргу — тэатральнае, якое жывымі вобразамі ўздзейнічае на свядомасць і псіхіку дзіцяці.***

Разумеючы і беручы гэта пад увагу, Міністэрства культуры Беларусі (на маёй памяці ўпершыню!) праводзіць сёлета конкурс на лепшы дзіцячы спектакль у драматычных калектывах рэспублікі. Па выніках конкурсу на базе Тэатра юнага гледача павінен адбыцца фестываль лепшых пастановак. Як чынніку журы мне давялося прагледзець шмат апошніх прэм'ер, разлічаных на дзіцячую аўдыторыю. І хоць праца наша яшчэ працягваецца, ёсць пэўныя падставы падзяліцца сваімі назіраннямі.

Не зважаючы на магчымасць паспаборнічаць за даволі значныя грашовыя прэміі (тры — за лепшы спектакль, чатыры — за акцёрскія работы), далёка не ўсе тэатры далі заяўкі на ўдзел у конкурсе. Прычыны розныя. У адных калектывах казкі, як неабавязковы даважак да рэпертуару, ідуць гадамі і рэдка абнаўляюцца, на іншыя ўплывае катастрафічная расхістанасць трупы, калі ўзрост самых "маладых" акцёраў набліжаецца да сарака гадоў.

Нельга сказаць, што казцы вельмі шанцуе на дарослай сцэне. Пры наяўнасці ў рэпертуары кожнага тэатра спектакляў-казак, за кошт якіх і выконваецца пераважна план па гледачы, стаўленне да іх часцей за ўсё вызначае так званы рэшткавы прынцып. Аб гэтым сведчаць сціплыя дэкарацыі і касцюмы, беднаватае светлавое і тэхнічнае абсталяванне, а таксама тое, што ажыццяўляюць іх, як правіла, студэнты-дыпломнікі альбо чарговыя маладыя рэжысёры. Само па сабе гэта, вядома ж, не заганна. Аднак паблажлівае стаўленне да дзіцячых пастановак мэтраў нашай рэжысуры ўяўляецца, мякка кажучы, непрадбачлівым. Таму што менавіта ад тэатра залежыць, якое ўражанне пакіне ў памяці дзіцяці першая сустрэча з мастацтвам.

Сярод шматлікіх дзіцячых пастановак, самых розных па жанрах (казка-канцэрт, мюзікл, музычна-пластычнае відовішча, казачная феерыя і інш.), асаблівую ўвагу прыцягнуў спектакль "Каціграшак", пастаўлены Валерыем Маслюком па ўласнай п'есе на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа (Віцебск). У адрозненне ад сцэнічных твораў вонкава кідкіх, забаўляльных, разлічаных на кліпавае ўспрыманне сучаснай дзіцячай аўдыторыі, коласаўская пастаноўка далучае маленькага гледача да праблем вельмі сур'ёзных. Яго поспех, на маю думку, вызначаюць дзве акалічнасці — надзвычай вынаходлівая, яркая відовішчнасць і глыбокая сутнасная напоўненасць дзеяння.

Паводле народнага ўяўлення пра рай і пекла сцэна падзелена на два ярусы. Аплеценыя бездыханнымі тлустымі каранямі, абодва яны закрыты заслонамі: на чорным фоне ніжняй — выява чэрапа, на верхняй — зззяючае прамяністае сонейка. Калі заслоны ўзнімаюцца, то па батлейкавым прынцыпе ўнізе адкрываецца змрочная пастка князя цемры, наверсе ж, у рамцы залатых варот, з'яўляюцца Бог і Анёлы. Бог, ён жа Стары, і яго нябесная світа паўстаюць у выглядзе звычайных сялян, апранутых у палатняныя кашулі, хустачкі і саламяныя капелюшы.

Першая сцэна ўяўляе сабой своеасаблівы пралог-аповед пра грэшнікаў, якія пры жыцці лайдачылі, скнарылі, славаблудзілі, за што і былі асуджаныя на вечныя пакуты. Яны моляць аб літасці, і ім адкрываецца шлях да збавення. Гучыць голас: "Калі рукі складуць у крыж ды прысягнуць імем Яго, то даруецца ім". Грэшнікі каюцца, і з іх выпаўзаюць гадзюкі. Шчаслівыя людзі адорваюць Каціграшка кветачкай і скарынкай хлеба — сімваламі духоўнага і матэрыяльнага багацця роднай зямлі. Так праз казку маленькі глядач далучаецца да важнейшага маральнага пастулата — ачысціцца можна толькі праз шчырае пакаянне.

Сюжэт казкі пабудаваны на традыцыйным супрацьстаянні дабра і зла. Каціграшак (С. Астрамовіч) змагаецца са Змеем, каб выратаваць з палону сваю сястру Палаг'ю (І. Забалотнікава). На шляху да царства цемры юнак сустракае Салдата (В. Дашкевіч), Вадахлёба (Ю. Цвірка), Абжору (В. Цвяткоў), Маразілу (А. Лабанок). Дабром і ласкай Каціграшак пераконвае іх уступіць у няроўную барацьбу са Змеем. Вадахлёба, які выпіў усе навакольныя калодзежы і азёры, ён прымушае вярнуць сялянам рачулку. Абжоры аддае апошнюю скарынку хлеба, Маразілу накрывае сваёй адзінай світкай. Нібыта пальцы, сціснутыя ў кулак, яны з адзінокіх блукальнікаў ператвараюцца ў моцную сілу.

Змей Шкарупей (Г. Шкуратаў) са сваім служкай Чорным Пеўнем (Б. Сяўко) насылаюць на сяброў розныя чары. Вось на стомленых вандроўнікаў у мудрагелістым танцы апускаецца бліскучая шаўковая коўдра, каб усыпіць іх на сто год, а вось побач з імі вырастае дрэўца з атручанымі яблыкамі. Змей Шкарупей выяўляе шмат злой фантазіі, у адрозненне ад іншых персанажаў, пастаянна мяняе сваё аблічча. Ён паўстае то апранутым у чырвона-чорны плашч са змеепадобнымі, быццам антэны, жгутамі валасоў, то ў рудым адзенні з панкавым грэбнем на галаве, то ў чорных ботах і галіфэ з бліскучым аздабленнем. Нахабна і самаўпэўнена Змей абвяшчае: "Гэта я — і не я. Сто твараў маю, сто аблічча".

Не здолеўшы перамагчы сяброў чарадзействам, Змей хціва пераўвасабляецца ў мужыка-тачыльшчыка (В. Салаўёў), які вострыць шаблю Салдата. Параніўшы палец атручанай шабляй, Каціграшак траціць прытомнасць. Здаецца, усё скончана, бітва прайграна. І раптам з'яўляецца Бог, ён жа Стары (Т. Кокштыс). Сябры, неаднойчы ашуканыя Змеем, прапануюць яму перахрысціцца і толькі пасля гэтага ставяцца да яго з даверам. Бог, ён жа Стары, ажыўляе Каціграшка мудрымі словамі: сястру выратаваць павінен, людзям дапамагчы павінен, змея адолець павінен. Так, супраць шматабліччасці зла паўстаюць выратавальная моц крыжа і неабходнасць выканання святога доўгу перад людзьмі і сваёй зямлёй.

Кульмінацыйная сцэна бойкі Каціграшка са Змеем вырашана ў спектаклі надзвычай эфектна. Злавесна высвечваецца знак пекла — зззяючы трохкутнік, акальцаваны гірляндай чырвоных лямпачак. Ахутаныя клубамі дыму з чорнай пасткі выпаўзаюць тры агромністыя галавы Змея Шкарупея. Яны пагрозліва выгінаюцца, нібыта выконваюць нейкі пачварны рытуал. Вытарашчаныя круглыя вочы, раззяўленыя чырвоныя зяпы свецяцца, пераліваюцца шматколернымі люмінісцэнтнымі фарбамі. Юнак адсякае адну галаву, другую, трэцюю. Здаецца, вось яна перамога. Аднак нечакана з цемры ўзнікае жывы Змей Шкарупей, які цынічна абвяшчае: "Я — бессмяротны!"

Зразумеўшы бяссілле чалавека перад злом, Каціграшак звяртаецца па дапамогу да Бога. У адказ на яго мальбу высвятляецца верхні ярус і ў прамяністых залатых варотах з'яўляецца Бог, ён жа Стары. Пачынаецца адкрытае процістаянне дабра і зла, раю і пекла, Бога і д'ябла. "Я цябе не баюся", — пагардліва заяўляе Змей, на што Бог, ён жа Стары, спакойна адказвае: "Навошта мяне баяцца, у мяне верыць трэба". Вядома ж, Бог мог бы лёгка перамагчы і наказаць Змея, але зрабіць гэта павінен сам чалавек. І тут адбываецца нешта зусім нечаканае. Маленькі хлопчык з натоўпу смела падыходзіць да Змея і дае яму добрага кухталя. Слуп агню, успыхнуўшы, паглынае злавесную пачвару. Адразу ж наверсе ажывае засохшае дрэва, яго змярцвелыя галінкі пакрываюцца зялёным лісцем і чырвонымі яблыкамі. Усе святкуюць перамогу, і ў цэнтры карагода — Малы (Глеб Цвяткоў) які горда трымае ў руках булаву Каціграшка.

Спектакль коласаўцаў уражвае чароўнай музыкай У. Кандрусевіча, дзівоснай гульнёй святла і ценяў Р. Ісэрмана, цудоўнымі дэкарацыямі і касцюмамі мастачкі С. Макаранкі (чаго варты хоць бы вялізны, у чалавечы рост Чорны Певень у сапраўдным птушыным апярэнні, з чырвоным грэбнем і зззяючай дзюбай!). Па вонкавай прыгажосці, па складаных сцэнічных эфектах сцэнічная казка можа з годнасцю канкурыраваць са шматфарбнымі кіна- і тэлемультфільмамі. Галоўнае ж, што яго яркая відовішчнасць спалучаецца з сэнсавай глыбінёй, дасціпнай успрыманню дзіцячай аўдыторыі.

Лёгка і ненавязліва рэжысёр В. Маслюк далучае маленькага гледача да духоўнасці і веры. На ўзроўні дзіцячай свядомасці спектакль вядзе размову аб тым, што, зрабіўшы дрэнны ўчынак, неабходна абавязкова пакаяцца, што моц чалавека — у яднанні з іншымі людзьмі, што крыж мае не толькі ахоўную сілу, але і дапамагае распазнаць зло, што Бога не варта баяцца, у яго трэба верыць...

**Тамара ГАРОБЧАНКА**

ВАНДРОЎКІ

МУСІЦЬ, УПЕРШЫНЮ мне пamроілася пра Чэхію, калі бацька купіў боты фірмы "Баця". Усё пачыналася з чутак. У роднай вёсцы, бывала, старыя, сабраўшыся на прызбе, абмяркоўвалі навіны: "З Бярэсця хлопец паехаў вучыцца да чэхаў", "А вось Мікола бачыўся з чэхамі і казаў, што ў іх вельмі добрыя машыны, як у немцаў"... І калі Нямеччына мне ўяўлялася невядомай, вельмі далёкай краінай, дык Чэхі (называю народ і краіну аднолькава, як называлі дзяды нашы) нібы наблізіліся да мяне, малога, нават папоўніліся нейкімі прыкметамі і людзьмі, што жывуць не так і далёка, ці не за тымі, як пяецца ў нашай песні, "за горамі, за крамянямі..." Наш малапісьменны заходнебеларускі мужык, якім я помню яго з канца 30-х гадоў, успрымаў чэхаў як штосьці суседскае. А песню гэту пра горы-крамені ў нас спявалі старэйшыя дзяўчаты штогод, як гукалі вясну, чамусьці гэта называлі "спяваць ўтэкі"...

Аляксей ГАРДЗІЦКІ

# "Гамбрынус", або Мае Подэбрады

Калі мне надарылася ехаць у Чэхію першы і, нядаўна, другі раз, то я трапляў туды не цераз Карпаты, а аб'ехаўшы іх, цераз Польшчу. Пішу гэтыя радкі і раптам нахлынула на мяне песня "Мела я мужа піяка..." Маю яе не менш за чатыры варыянты:, берасцейскі, запісаны ад маці, магілёўскі — ад Міхася Стральцова, славацкі і ўкраінскі. Цікава было б параўнаць іх. Пакуль што скажу адно: ва ўсіх гэтых варыянтах гераіня песні гаворыць мужу: калі будзеш піць і біць мяне, то я "пайду за Дунай". Цікава, што з усіх названых мной народаў за Дунаем цяпер, па-мойму, знаходзяцца толькі чэхі. Калі была Чэхаславакія, то самай вялікай ракой у гэтай краіне і быў Дунай, а цяпер, пасля аддзялення Славакіі, у Чэхіі самая вялікая рака — Лабэ. Вось так, драбнеюць дзяржавы, драбнеюць і рэчкі ў тых дзяржавах.

Перш чым сабрацца ехаць самастойна на лячэнне ў Чэхію, нямецкія сябры далі мне курортную рэкламу. Паводле яе выявілася, што мне трэба ехаць у адзін з чатырох курортаў: Карлавы Вары, Марыянске Лазне, Подэбрады, Лугачовіцэ. Сеў на аўтобус Мінск — Прага і рушыў. У Празе мяне сустрэў даўні сябра, выдатны даследчык і перакладчык беларускай літаратуры, прафесар Карлава універсітэта Вацлаў Жыдліцкі (на яго творчым рахунку артыкулы, прадмовы, пераклады твораў А. Адамовіча, Я. Брыля, В. Быкава, У. Караткевіча, А. Карпюка, І. Шамякіна). У кароткай размове з ім выявілася, што паводле маёй хваробы трэба ехаць у Карлавы Вары або ў Марыянске Лазне, куды я магу дабрацца толькі позным вечарам. Што да Лугачовіцэ, то ён таксама далёка і там лечаць астму (цяпер мне стала зразумела, чаму туды любіў ездзіць наш слынны спявак Міхал Забэйда-Суміцкі). А калі сесці на наш аўтобус, які адпраўляецца назад праз гадзіну, то за пяцьдзесят кіламетраў ад Прагі — Подэбрады, хоць курорт сардэчны, але ёсць там мінеральная крыніца (праўда, пазней высветлілася, што вада ў ёй нейтральная). Падумаў: хіба ў мяне не баліць сэрца? І развітаўся з Вацлавам, які даў мне сякія-такія каардынаты. У дарозе дзівіўся: вось табе і хвалёная рэклама!

Яшчэ з маладых гадоў люблю ехаць у нязнанае, нават у зусім невядомае. Люблю не столькі падарожнічаць, колькі спыніцца ў нейкай мясціне, пахадзіць, панаглядаць за тамтэйшым жыццём, пагаварыць з мясцовымі людзьмі. Мяркую, што гэта дае ўсё ж больш глыбокае пазнанне жыцця таго краю.

Праз гадзіну быў у Подэбрадах. Выйшаў на ўскрайцы горада, бо ў цэнтры маршрутным аўтобусам забаронена спыняцца. Хоць патыхнула свежым аксамітным паветрам, ды і сонца яшчэ тлела, па-асенняму саграваючы зямлю, але падкралася пачуццё нейкай адзіноты.

Усё ж, чым больш я паглыбляўся ў жыццё гэтага, як усе курортныя мясціны, невялікага гарадка, тым утульней сябе адчуваў. Да названага Вацлавам гатэля ісці было метраў пяцьсот. Выявілася, месцы ў ім ёсць, але як на мае грошы — задорага. Наогул жытло, як тут называюць, — абетаванне, у Еўропе ўсюды дарагое, хоць, зрэшты, здзіўляцца няма чаго, у нас таксама для замежнікаў прадугледжаны за жытло высокі тарыф. Праўда, тут, на курорце, з 1-га кастрычніка пачынаецца зімовы сезон, і ўсё курортнае абслугоўванне таннее на дваццаць працэнтаў. Адміністратару гатэля шчыра сказаў, што я ніякі не бізнесмен, а ўсяго звычайны спісоватэл (так тут называюць пісьменнікаў), і мне трэба знайсці недарагі нумар. Яна назвала два пансіянаты і дазволіла пакуль пакінуць у яе рэчы. Першым па дарозе мне трапіўся "Альфа", якраз у цэнтры, над паркам. Пішу так падрабязна пра самастойнае ўжыванне ў гэты курорт, думаючы: раптам хто яшчэ захоча паўтарыць падобную дарогу. Гаспадыня пансіяната паказала мне рахунак, з якога вынікала, што жыць у аднамесным нумары танней, чым у двухмесным. Растлумачыла: вы ж будзеце карыстацца ўсім за двух: святло, тэлевізар, іншыя выгоды. Пайшоў у адзіночны. Нумарок аказаўся даволі ўтульны, як то кажуць, з усімі выгодамі. Настрой адразу палепшыўся, бо ўсё ж галоўнае для чалавека — прытулак. Як і ўсюды, калі маеш у кішэні хоць трохі грошай, дык хваляваца за ўсё астатняе асабліва не варта. А калі ўключыў тэлевізар і ўбачыў з тварыкамі ў крапінку тых самых дзетак, што і на нашым экране, якія пад песеньку рэкламуюць "Fruchtgut", а па другой праграме знаёмыя нам лацінаамерыканскія серыялы, дык і зусім усцешыўся: тут таксама можна жыць.

Праявы масавай культуры, што, нібы спрут, абвівае ўвесь свет, асабліва заўважны ў кнігарнях, куды я зайшоў найперш. І ўсё ж, у параўнанні з нашым кніжным рынкам, тут больш пазнаваўчай літаратуры, дакументальнай, якая выдаецца даволі аператыўна. Скажам, пасля сусветна вядомай трагедыі прынцэсы Дзіяны тут на прылаўках адразу з'явіўся перакладзены з англійскай трохтомнік пра яе жыццё.

Назаўтра раніцай пайшлі з гаспадаровым сынам Добракам у "Лібэнскі Дум", што месціцца побач, каб набыць талоны ў адпаведную дыетычную залу. За дванаццаць дзён харчавання заплаціў столькі сама, колькі за суткі абетавання ў пансіянаце. Тое самае каштуе і адзін прыём у доктара. Адбываецца наглядная пераацэнка каштоўнасцей, праяўляюцца першыя вынікі капіталізацыі жыцця.

Абслуга ва ўсім, у лячэнні, харчаванні, у крамах, банку ў гэтым курортным гарадку — выдатная. Бывала, у абедзеннай зале ля раздавальні выстраяцца некалькі афіцыянтак і толькі і сочаць, хто даеў сваю порцыю, каб паставіць новую страву. Калі я спачатку прыходзіў з бутэлькай сваёй крынічнай вады, то неўзабаве да майго прыходу заўсёды стаяла на стале шклянка гэтай вады. Прыгадалася далікатнае: штодня хадзіў я ў ванну, і кожны раз, як вылазіў з яе, мяне падтрымлівала, каб не паслізнуўся, сястрычка. А я, як звычайны правінцыял, прасіў: "Не трэба, я сам, я сам". А цяпер думаю: а чаму б і не, хай бы і падтрымала...

У чэхаў твары простых працавітых людзей. Старэйшыя мужчыны мне вельмі нагадвалі нашых заходнебеларускіх дзядзькоў, а што да моладзі, то яна цяпер усюды аднолькавая, аднастылёвая і ў сваім адзенні і ў сваіх захапленнях. У тутэйшых дзяцей звычкі тыя самыя, што і ў нашых: пакуль бацькі ідуць па тратуары, тыя аблазяць усе парэнчы. Жанчын, калі ты спытаеш у яе пра што, вельмі ўпрыгожваюць мілыя ўсмешкі. Падумалася, чаму нашым так не ўсміхацца? Але тут жа даю адбой: паспрабуй усміхніся, дык каторы нахабнік гэтак увяжацца за табой, што не адчэпішся. Усё ж стыль адносін, культура адносін у нас інакшая ў многім.

Нечаканасцю для мяне быў нудзісцкі пляж на мясцовым возеры — агульны для мужчын і жанчын. У Паланзе я бачыў такія пляжы, але там яны размешчаны паасобку. Мне было нязвычна быць сярод нудзістаў, і я размясціўся на ўскрайку, але ўсё ж падпарадкаваўшыся агульным правілам. Непадалёку ляжалі ў касцюмах Адама і Евы дзядуля з бабуляй, а побач у калясцы ляжаў будучы нудзіст. Яшчэ далей месцілася сямейная пара, да якой падышло трое, відаць, знаёмых мужчын у касцюмах Адама і паміж імі ўзнікла звычайная, ціхамірная размова. І калі да мяне ў Подэбрады прыехаў на сваёй "Шкодзе" Вацлаў Жыдліцкі, дык я, седзячы з ім за кубачкам кавы, не прамінуў спытаць пра гэты незвычайны пляж. Ён расказаў, што да іх гэта прыйшло з ГДР, дзе, як ён чуў, упершыню ўвялі такія агульныя пляжы, і дадаў: "Не ведаю, як цяпер там, у аб'яднанай Германіі".

У чэхаў адчуваецца вялікая пашана да суседняй нямецкай культуры, мовы. Амаль кожны чэх умее гаварыць па-нямецку, як у нас кожны беларус — па-руску, толькі з той розніцай, што чэх найперш шануе сваю, чэшскую, пра беларуса ж такога не скажаш. Выдатнае народнае выслоўе: свая кашуля бліжэй да цела мае значна шырэйшы сэнс за побытавы. Тут гэта вельмі адчувальна. Пацікавіўся тэлепраграмамі; ёсць тры: чэшская, нямецкая, славацкая. Уключыў чэшскую: "Наша надвор'е". У беларусаў проста: "Надвор'е". Уключыў нямецкую: "Мы — прыгожыя", па змесце адпавядае наша "Паказ мод" ці проста "Мода". У нашых назвах — наадварот: адхіленасць ад свайго, нібы ў нас нічога свайго, роднага няма, і цябе перадачы з такімі назвамі нібы і не тычацца.

Што да пытання аб мове, то тут адбыўся цікавы выпадак. Вацлаў сказаў, што хацеў прыехаць да мяне раней, але не змог, бо ішоў суд над групай выкрадальнікаў старадаўняй зброі. У групу ўваходзілі людзі розных нацыянальнасцей. Чэха асудзілі адразу, далі чатырнаццаць год, а беларус з Віцебшчыны запатрабаваў, каб яго справа слухалася на роднай мове, бо ніякай іншай ён не разумее, відаць, меркаваў, што не знойдуць перакладчыка. Судовыя ўлады запрасілі універсітэт і там знайшлі Жыдліцкага. Я пацікавіўся ў прафесара, як падсудны гаварыў па-беларуску. "Добра гаварыў, — адказаў знаўца славянскіх моў. — Цяпер і ўкраінец запатрабаваў, каб яго справа таксама слухалася на роднай мове. Суд зацягваецца да новага года, а там мае быць амністыя, падсудныя гэта ведаюць лепш за нас". Вось такая, не без гумару, драматычная бываліца.

Кожную раніцу да тарца нашага пансіяната абслуга выстаўляла ў скверык столікі пад вялікімі парасонамі з надпісам "Гамбрынус". Мне прыгадалася аднайменнае шчымліва-трапяткое, з тонкім адчуваннем музыкі наогул і музыкі гукапісу апавяданне Аляксандра Купрына пра піўны рэстаран, што месціўся ў падвале паўднёвага горада, пра Мішку-музыканта, пра яго скрыпку, пра мастацтва, якое ніколі не памірае. У маладосці, будучы ў Адэсе, я наведаў купрынскія мясціны, канечне, і "Гамбрынус" на Дзерыбасаўскай. І цяпер у Жыдліцкага я пацікавіўся, што азначае слова "Гамбрынус". Ён растлумачыў, што гэта адзін з чатырох гатункаў пльзенскага піва. Вось табе і на! Так надоўга расцягнулася ў мяне пазнанне чэшскага побыту.

Мне падабаюцца імёны, якія даюць тутэйшым дзецям. Сын майго гаспадара Добрак — ад слова добра, масажыста, з якім мы ў часе размовы часта знаходзілі агульныя чэшскія і беларускія словы, звалі Радак — ад слова радзіць, даць раду. На вуліцы чуў, як дзяўчынку паклікалі: "Мілана!" Падумалася, што і маю маці можна было б так называць, бо яе імя вельмі сугучнае чэшскаму — Малання. Аднавяскоўцы клікалі яе коратка — Меля, а палякі на свой лад — пані Мілька. Усё ж прыгожае, паэтычнае імя Мілана, нашае, славянскае.

Першае пытанне, якое задала мне гаспадыня пансіяната: "Як там у вас жыццё?" У тоне яе голасу адчувалася не проста цікаўнасць, а патаемнае хваляванне за наш лёс, і мне падумалася: гэтаксама і нашы жанчыны пытаюць пра жыццё ў прышлых людзей. Усім прыемна адчуваць гэтае шчырае людскае жаданне дапамагчы адзін аднаму.

Мяркую, што добрыя адносіны да мяне ў гэтым гарадку, дзе кожны новы чалавек навідавоку, былі яшчэ і таму, што людзі адчувалі маю ўнутраную прыязнасць да іх. Калі я пайшоў за Лабэ, на зарэчча, адзін чэх, пажылы, але статны, гарцуючы на кані, пацікавіўся, адкуль я. Адказаў: "Мінск, Беларусь". "О, Беларусь, Украіна!" — выгукнуў прывітальна ён і пагарцаваў далей. Не надта хочацца гаварыць пра наступны выпадак, але ўсё ж раскажу. Аднойчы надвячоркам, верны сваёй звычцы акунацца ў нязнанае, я выйшаў на ўскраіну Подэбрадаў, дзе мяне спыніў здаравенны мужчына на падпітку і нешта загаварыў. Я адказаў, што не разумею, што прыехаў з Беларусі. "Беларусь! Добра жыць, добра жыць!" — аж пражэстыкуляваў ён уверх рукою, пацісну маю і накіраваўся далей па тратуары, усе яшчэ нешта гаворачы сам сабе.

Былі і нюансы. У Празе, на чыгуначным вакзале, мне трэба было знайсці касу. Думаючы, што мяне тут лепш зразумеюць па-руску, я звярнуўся да супрацоўніцы вакзала, што сядзела ў акенцы. "Ідзіце направа ў "Інтурыст", — яшчэ і жэстам падказала, куды ісці. Пайшоў направа — не знайшоў. Там сказалі ісці налева. Пайшоў — акрамя кафэ, нічога няма. Як у тым анекдоце: направа пойдзеш — раздзенуць, налева пойдзеш — таксама раздзенуць. "А што рабіць?" — пытае анекдотны персанаж. "Раздзявайся тут" — адказваюць яму. "Тут" я не спыніўся, а пайшоў блукаць па вакзале і якраз злева ад той самай супрацоўніцы набрыў на патрэбныя касы. Касірка аказалася лагодная, добразычлівая, нават напісала на паперцы, колькі каштуе білет да Брэста і колькі да Мінска. Цікава, у раскладзе я не знайшоў цягніка Прага—Масква, а толькі Прага—Варшава, хоць, памятаю, амаль трыццаць год таму такі цягнік быў, і адыходзіў ён таксама ўвечары, і быў такі самы, зборны, г. зн. некалькі вагонаў ішло да Варшавы, некалькі — да Мінска, а астатнія — да Масквы. Сумняваюся, ці ёсць наогул на пражскім вакзале прадстаўніцтва "Інтурыста", бо хутчэй за ўсё такая ўстанова цяпер наогул не існуе, яе замянілі іншыя турысцкія фірмы. Вадзілі мяне за нос таму, што я звяртаўся па-руску.

Упершыню антырасійскія настроі я адчуў тут у 1968 годзе, пасля ўвядзення савецкіх войск. Вялікім начальнікам ехаць у Карлавы Вары тады забаранілі, і дазволілі купляць пуцёўкі простым людзям паспалітым. Санаторная пуцёўка мне абышлася крыху больш за месячны заробак. Падыходзячы да фунікулёра, што падымаў нас у санаторный "Імперыял", дзе лячыліся хворыя пераважна з Савецкага Саюза, мы чыталі напісаны на асфальце белай фарбай заклік: "Русский солдат — домой!". Упершыню я пачуў там і слова "акупанты" ў адносінах да савецкіх салдат. У Празе на Вацлаўскай плошчы ля помніка каралю былі запалены вялікія свечкі, побач з якімі на ватмане было напісана: "У памяць ахвяр савецкіх акупантаў". Тады я зразумеў, чаму савецкія ўлады баяліся выпускаць людзей за мяжу. На вялікі жаль, памяць пра тыя падзеі яшчэ жыве...

Пасля подэбрадскай кавярні Жыдліцкі павёў мяне ў магазін і стаў купляць сувеніры: свайму найлепшаму беларускаму сябру Янку Брылю, другу чэшскай літаратуры Сяргею Панізніку... Напаследак узяў трохчацвяртную бутэльку чэшскай гарэлкі і дадаў: "Пры нагодзе пастаў беларускім пісьменнікам на стол, хай ведаюць, што быў такі Вацлаў Жыдліцкі". Яго словы мяне насцярожылі: дык што, ён не збіраецца да нас больш прыязджаць? Ведаю, была ў яго справядлівая крыўда: яшчэ ў савецкі час пасля двухгадовай працы ў Маскоўскім універсітэце ён вяртаўся з жонкай у Прагу цераз Мінск, а нам не дазволілі прыняць іх. Пасля Вацлаў прыслаў мне ліст, у якім напісаў, што ў Беларусі ён аб'яўлены "персонай нон грата".

Думаю, мы так і не навучыліся ўшаноўваць замежных перакладчыкаў, крытыкаў за ўклад ва ўзбагачэнне літаратурных сувязей, за папулярызацыю беларускай літаратуры, амаль не даём ім ганаровых званняў і зусім няма адпаведных прэмій. У Беларусі за апошнія дзесяць гадоў з замежных, скажам так, папулярызатараў нашай літаратуры ганаровымі званнямі ўшанаваны ўсяго двое: Вацлаў Жыдліцкі стаў ганаровым доктарам Белдзяржуніверсітэта і Леанід Навічэнка (Украіна) — замежным акадэмікам Нацыянальнай акадэміі навук. А як робіцца за мяжой? Вазьму самы свежы прыклад. У Польшчы наш Сяргей Законнікаў атрымаў за сваю кнігу "Чорны конь Апакаліпсіс", выдадзеную ў Варшаве ў перакладзе Ч. Сенюха, атрымаў Міжнародную літаратурную прэмію імя Вітальда Хулевіча і ўнесены ў спіс лепшых паэтаў Еўропы, на Украіне за паэтычную і перакладчыцкую дзейнасць яму прысуджана прэмія імя Рыгора Скаварады. Час і нашаму Саюзу пісьменнікаў заснаваць адпаведную прэмію для замежных перакладчыкаў, крытыкаў і выдаўцоў. Я наўмысна назваў выдаўцоў, бо ў цяперашняй рыначнай сітуацыі ад іхняга жадання і зацікаўленасці вельмі многае залежыць.

На развітанне я выказаў Жыдліцкаму надзею, што ён яшчэ прыедзе да нас. "Цяпер у вас выраслі маладыя", — адказаў ён. "У Белдзяржуніверсітэце ў нас арганізавана навучанне багемістаў, яны нават спрабуюць ужо друкаваць пераклады, але і старэйшым месца на літаратурнай ніве хапае", — запярэчыў я.

І нібы ў працяг нашай з Вацлавам размовы па вяртанні ў Мінск да мяне прыйшоў старэйшы наш багеміст Алесь Мажэйка, які прынёс перакладзеную ім на беларускую мову кнігу Ярослава Гашака "Прыгоды ўдалага салдата Швейка" з просьбай перадаць яе Жыдліцкаму. Каторы раз чытаю гэту кнігу і, выбачайце, смяюся да слёз. Сапраўды, яе месца побач з лепшымі ўзорамі сусветнай літаратуры. Невыпадкова ў сучаснай рускай літаратуры з'явіўся гумарыстычны персанаж Барыса Мажаева — Фёдар Кузькін, думаю, не без уплыву вобраза Швейка. Вось так, і ў часе, і ў прасторы самымі неверагоднымі шляхамі ўзаемадачыняюцца літаратуры. І славянскім, у тым ліку чэшска-беларускім творчым сувязям жыць яшчэ доўга-доўга. Некаторыя кажуць, нібы эпоха Гутэнберга заканчваецца, але выбачайце, жыццё слова не заканчваецца, якое, як сказана ў Біблії, было напачатку.

Мусіць, таму і нагоды адкаркаваць Вацлаву бутэльку не трапілася, хоць я неаднойчы прапаноўваў яго сябрам зрабіць гэта. Адказваюць: "Прыедзе Вацлаў, тады й збяромся".

ку ці не кожны рух і жэст Амеліі, знойдзены Штэйнам. Урэшце, менавіта на ёй засяродзілася ўся ўвага рэжысёра.

Сямён Аляксандравіч аддаваў перавагу жорсткай дысцыпліне — ва ўсім. Хоць гэта не перашкаджала яму быць раскаваным, па-юнацку непасрэдным і абаяльным у стасунках. Ён сам заўсёды быў гранічна дысцыплінаваны і сабраны — і ад кожнага, хто меў смеласць выходзіць на оперную сцэну, зусім абгрунтавана чакаў фанатычнай працаздольнасці, гарачай зацікаўленасці ў рабоце, адным словам — сапраўднага жыцця ў мастацтве.

Асабліва патрабавальны быў да сваіх любімых артыстаў: Вольгі Цішынай, Наталлі Рудневай, Наталлі Кастэнкі, Ніны Казловай, Юрыя Бастрыкава, Віктара Скорабагатава, Івана Шупеніча, Мікалая Майсеенкі, Уладзіміра Экнадзіёсава. І ад іх перш за ўсё ён атрымліваў той творчы імпульс, які так чароўна пераўтварае жыццё кожнага мастака.

Але аддаваў ён усё ж значна больш. У сумесным творчым пошуку нараджаліся незабыўныя акцёрскія работы. Напрыклад, Стэньё Мікаля Майсеенкі — у аднаактовай оперы С. Пракоф'ева "Маддалена": шорсткі, як корч, зарослы мохам; перапоўнены пакутлівымі і страшнымі, невядомымі для яго самога, жарсцямі. Гэта быў адзін з самых высокіх пікаў у кар'еры спевака.

"Маддалена" ўвогуле сталася напраўду "зорным", акцёрскім спектаклем, у якім склаўся бліскучы выканальніцкі ансамбль: Наталля Руднева, Іван Шупеніч, Мікалай Майсеенка... Пра "Маддалену" шмат гаварылася і пісалася ў самых буйных тэатральных выданнях былога Саюза. Вельмі шкада, што з ад'ездам Івана Шупеніча і дырыжора Андрэя Васілеўскага гэты дзівосны спектакль памёр.

Так — неўпрыкмет, спакваля зніклі з нашай сцэны і іншыя выдатныя рэжысёрскія работы Штэйна: "Фауст", "Сельскі гонар", "Барыс Гадуноў", "Залаты пеўнік", "Джардана Бруна", "Медыум", "Вайна і мір", "Князь Наваградскі"... Усе гэтыя спектаклі былі ў свой час цудоўнымі з'явамі, мелі сур'ёзны поспех у публікі і крытыкі. Чаму ж сёння іх няма? Чаму жывуць састарэлыя "Аіда" і "Царская нявеста" — а Штэйнавы спектаклі захаваліся толькі ва ўспамінах? Магчыма, таму, што тэатр больш няздольны на творчыя намаганні, на самаадданасць і стараннасць у працы?

●

Асабліва шкадую "Вайну і мір". Гэта быў унікальны спектакль, спектакль-падзея, у які было ўкладзена безліч працы і душы. Цэнтральную ролю Наташы Растовай у ім сыграла і праспявала любімая артыстка Сямёна Аляксандравіча — Наталля Кастэнка, з якой ён працаваў у крыху іншай манеры, чым з іншымі, сцэнічна менш адоранымі людзьмі. Звычайна ён паказваў вельмі шмат і вельмі падрабязна — а потым патрабаваў ад акцёраў гранічна дакладнай выпрацоўкі дэталяў. Наталлі (зрэшты, як і іншым таленавітым людзям) ён вельмі часта даваў свабоду, што абавязкова мела яркі, нечаканы вынік. Працуючы з такімі людзьмі, ён часта абмяжоўваўся адным-адзіным, як бы выпадкова кінутым словам — з якога спантанна вырастаў належны вобраз.

Прынамсі, бывалі і дакладна агавораныя моманты, калі ўсялякая імправізацыя найстрога забаранялася. Гэта датычылася, напрыклад, эпізодаў гвалту, якія пагражалі выхадам за межы эстэтычнага, некантралюемымі выкідамі нядобрых пачуццяў і — не ў апошнюю чаргу — траўмамі. У спектаклі "Медыум" глуханямога хлопчыка Тобі жорстка збіваюць цяжкой розгай. Каб акцёр, у выпадку чыёй-небудзь неасцярожнасці, не пакалечыўся, яго падрабязна вучылі, як падаць, на які бок паварочвацца і г. д.

Яшчэ складаней у гэтым сэнсе было вырашыць сцэну сваркі П'ера Бязухава з Анатолем Курагіным у спектаклі "Вайна і мір". Каб зрабіць гэту "арыстакратычную", але бескампрамісную бойку выразнай і эфектнай — і прытым унікнуць скандалу, зусім верагоднага пры звыклай "якасці" адносін паміж тэнарамі — рэжысёру давялося надзвычай уважліва перачытаць Талстога і дэталёва паказаць акцёрам пластыку ролі кожнага.

Наколькі гэта было важна, паказаў прыкры трагікамічны эпізод — з тых, якія, здаецца, непазбежны ў тэатральнай штодзённасці. Адзін вядомы і схільны да амбіцый акцёр уводзіўся ў партыю Анатоля Курагіна па "хуткай дапамозе" і недастаткова ўцяміў сутнасць справы. Яго настолькі зняважыла тое, што здарылася з ім на сцэне, што ён паскардзіўся ў прафкам — маўляў, яго публічна збілі. Адбыўся скандал, і толькі з вялікай цяжкасцю акцёра ўдалося пераканаць у тым, што з ім абыходзіліся менавіта "паводле Талстога": сарвалі эпалет, ударылі... і г.д.

Прынамсі, гэта рэдкі выпадак. Звычайна акцёры разумелі Сямёна Аляксандравіча з паўслова. Гэта было вынікам яго ўласнай дакладнай эмацыянальнай настроенасці на патрэбную хвалю. Аднойчы, за пару гадзін да рэпетыцыі "Медыума", Алена Іванаўна Васільчанка ўбачыла яго ў калідоры, калі ён вельмі рэзка і жорстка, зусім не па-штэйнаўску размаўляў. Гэта быў нібыта іншы чалавек: "чужое" аблічча, "чужыя" інтанацыі, манеры, жэсты... Разгадка выявілася на рэпетыцыі: аказваецца, ён увесь час разважаў пра той эпізод, які рыхтаваўся разбіраць з акцёрамі, і несвядома знаходзіўся ў вобразе. Гэта была якраз сцэна збіцця Тобі...

Вось такая захопленасць Сямёна Аляксандравіча магла "завесці" ці нават "загнаць" акцёра, зламаць яго і прымусіць перагледзець свае стэрэатыпы або звычкі.

Расказваюць, да прыкладу, пра першую сустрэчу нікому тады не вядомага рэжысёра Сямёна Штэйна з Аленай Абразцовай. У Вялікім тэатры рыхтаваўся спектакль з яе ўдзелам. Сусветна вядомая зорка, зусім не зграючы ад жадання працаваць "невядома з кім", з'явілася на рэпетыцыю ў шыкоўнай сукні і ў туфліках на шпільках. Той, хто хоць аднойчы ў жыцці паспрабаваў сыграць няхай нават маленькі эцюд, зразумее, што гэта значыць. Але пасля таго, як рэжысёр без асаблівых цырымоній прымусіў яе пару разоў упасці (пакамечыўшы гафрэ і скрывіўшы абцас), тон змяніўся, і спявачка хуценька пабегла апранаць рэпетыцыйную спадніцу і тапкі. З таго часу яны неаднаразова працавалі разам — на карысць і задавальненне абоіх.

●

І ўсё-ткі галоўнае, бадай, у тым, што ён не быў проста рэжысёрам; яго дасягненні немагчыма ацаніць у адно толькі эстэтычнай сістэме каардынат — так, як інтэлігентны абывацель ацэньвае мастацкую творчасць. Ён умеў бударажыць розумы тых, хто побач.

У канцы жыцця, напрыклад, зрабіўся фанатыкам сучасных камерных опер. Для тых, хто ведаў яго ранейшыя манументальныя пастаноўкі ў добрых традыцыях — "Барыса Гадунова" М. Мусаргскага, "Міндыю" А. Тактакішвілі — было поўнай нечаканасцю, што гэты майстар маштабных палотнаў і масавых сцэн з такой умеласцю і назіральнасцю ўзнаўляе найтонкія псіхалагічныя нюансы.

У той час — як і цяпер — камерная опера ў нас нікому не прыжылася; стварыць спецыяльны тэатр (кшталту маскоўскага) здавалася справай немагчымай. Сямён Аляксандравіч знайшоў геніяльнае вырашэнне: "Клуб сяброў оперы!" Чыннікі клуба рэгулярна збіраліся ў гасцёўні Дома мастацтваў (пазней у верхнім фае тэатра) і для "сваёй", абранай публікі граліся эксперыментальныя спектаклі, якія ствараля група энтузіястаў пад кіраўніцтвам Штэйна ў вольны ад асноўнай працы час.

У энтузіястах, між іншым, недахопу не было. Сярод спевакоў вылучаліся Вольга Цішына, Наталля Руднева, Ніна Казлова, Уладзімір Экнадзіёсаў, Тамара Кучынская. Аркестр увасаблялі канцэртмайстры Алена Васільчанка і Ніна Салдаценкава. Публіку складала ў асноўным навуковая інтэлігенцыя з акадэмічных інстытутаў. Новыя спектаклі не нараджаюцца кожны месяц; таму бывалі і простыя, прыгожа задуманыя і вельмі цікавыя канцэрты, анонсы бліжэйшых оперных прэм'ер, вечары ўспамінаў.

Патрапіць на гэтыя сходы без запрашальнага білета было амаль немагчыма, а білетаў катастрафічна не хапала. Так што вакол "Клуба" нязменна панавала атмасфера ажыятажу...

Сёння "Клуб" — пры самых клапатлівых няньках — асірацеў, страціўшы сваё ранейшае высокае прызначэнне творчай лабараторыі, зрабіўся падобным да цыкла бясплатных канцэртаў. Хаця нельга пераацаніць, наколькі яго існаванне важна для адданых аматарак, у якіх часам няма ў кішэні не тое што лішняй, а і самай неабходнай капейкі.

Са сваіх "клубных" пастановак Сямён Аляксандравіч, як мне здаецца, больш за ўсё любіў "Альпійскую баладу" М. Губарэнкі — любіў, як любяць цяжкае дзіця. Як ні дзіўна, такая дарагая ягонаму сэрцу "Альпійская балада" была нялюбым дзіцём самога кампазітара, і толькі намаганні рэжысёра змянілі стаўленне аўтара да свайго тварэння. Між іншым, нават удзельнікаў гэтай пастаноўкі спачатку многае бянтэжыла і ў музыцы оперы, і ў яе драматургічнай пабудове. Напрыклад: Іван і Джулія яшчэ толькі пазнаёміліся, ён яшчэ адчуваў цяжар ад яе прысутнасці і хоча ад яе пазбавіцца — як раптам у яе партыі з'яўляецца зусім не да месца ў гэтым выпадку лірычнае арыёза пра ручаёк і іншую прыгажосць прыроды; і наадварот, калі адносіны Івана і Джуліі пачынаюць разгортвацца на поўную сілу, яна раптам звяртаецца да памяці Марыо — свайго загінуўшага каханага. Сваёй рэжысёрскай уладай Штэйн зрабіў драматургічныя перастаноўкі, па-новаму пазначыў псіхалагічныя акцэнты. Правёў усю падрыхтоўчую работу — і прытым так, што аўтар застаўся задаволены. Мала таго — ён змяніў канец оперы. Кампазітар Губарэнка проста выкінуў быкаўскі эпілог — ліст Джуліі, адрасаваны ёю на радзіму Івана праз гады пасля ягонай гібелі; і сапраўды — гэты тэкст было цяжка, або нават немагчыма пакласці на музыку. Усё канчалася фатальным стрэлам — традыцыйна-"страшным" фінальным акордам. Рэжысёр катэгарычна не пагадзіўся з такім вырашэннем. Ён даў музыцы адгучаць, вывеў абоіх герояў на авансцэну — у небыццё, ва ўспамін, — і тады, у поўнай цішыні і нерухомасці, "загаварыла" фанаграма: тэкст пісьма і звон Хатыні. Героі ўведалі свой лёс...

Гэтае ж вырашэнне фіналу было перанесена ў музычны відэафільм, створаны на аснове опернай пастаноўкі. Шкада, што яго не паказалі ў дні святкавання 50-годдзя Перамогі: думаю, ён стаў бы падзеяй.

●

Мы ўвогуле часам занадта лёгка адмаўляемся ад сваіх традыцый, ад набыткаў, назапашаных цэлымі пакаленнямі мастакоў. Праз некалькі гадоў пасля смерці Штэйна з рэпертуару беларускага опернага знік ужо і "Князь Наваградскі" А. Бандарэнкі — апошні спектакль у творчым жыцці Сямёна Аляксандравіча. Бясконца балюча і сорамна, што камісія па прысуджэнні Дзяржаўных прэмій не палічыла магчымым уключыць рэжысёра ў лік узнагароджаных: па прычыне смерці. Тым больш, што сама задума оперы належала рэжысёру, ён жа заказваў лібрэта, распрацоўваў план — а потым з гарачай, маладой нецярплівасцю чакаў чарговых музычных фрагментаў, якія выходзілі з-пад пяра кампазітара. Ён заўсёды так працаваў з аўтарамі: зацікаўлена, страсна. Кампазітары былі ягонымі сябрамі, натхняліся ягонымі ідэямі, прагна слухалі ягоныя парады. Яны пісалі оперы "для Штэйна", а ён быў іх самым вялікім знаўцам, патрыётам "сваіх" опер — нават калі натоўп не падзяляў ягоных думак.

Мінскі шлях Сямёна Аляксандравіча быў спакроўлены з беларускай операй. "Зорку Венеру" Ю. Семянякі ён ставіў яшчэ ў якасці запрошанага рэжысёра. Потым былі "Джардана Бруна" С. Картэса, "Сівая легенда" Д. Смольскага, "Новая зямля" Ю. Семянякі... Адным словам, калі б не Штэйн, — колькі оперных твораў не далічылася б беларускае мастацтва!

Аднак Штэйн ставіў даволі шмат класікі. А што засталося?

Перакручаны дзеля чарговых замежных гастроляў, але так і не аднолены ў сваім першапачатковым выглядзе "Баль-маскарад", і наўдалая, на маю думку, "Пікавая дама". Што ж, кожны (а тым больш, буйны) мастак мае права на няўдачы...

Зрэшты, тэатр таксама мае права мець свае праблемы. Вось толькі шкада, што рэжысёрскія дасягненні Сямёна Аляксандравіча не захаваліся тут у відэазапісе. А яшчэ больш прыкра, што не захаваўся Тэатр Штэйна як адмысловая праява духу, як сістэма мастацкіх ідэалаў і акцёрскай дысцыпліны — пра што, як ні дзіўна, больш за ўсё і марыць цяперашняя моладзь.

Што маем — не зберагаем... Пакуль чалавек жывы — магчымы спрэчкі і рознагалоссі... Апошнім часам я не была ў яго ў гасцях — у доме, які раней так любіла... Быў нейкі перыяд ахаладжэння: яму не вельмі падабаліся мае тагачасныя сябры, маім сябрам не вельмі падабаўся Штэйн, штосьці заставалася недагавораным і пазбаўляла нашы адносіны заўсёднай цеплыні. Гэта мучыла, засмучала; але, здавалася, — усё можна паправіць.

Наша апошняя сустрэча неяк раптам растапіла лядок, які нарос, і я паабяцала сабе пасля адпачынку абавязкова зазірнуць у госці. "Пасля" — не было...

Што застаецца пасля смерці опернага спектакля? Няўжо нічога — акрамя кучы пажоўклых афіш і зношаннай сукенкі прымадонны? Што застаецца пасля чалавечай смерці?.. Ці не пра гэта — усё мастацтва?

**Юлія АНДРЭЕВА**

# Алесь ШЛЕГ



7 ліпеня памёр вядомы беларускі пісьменнік Алесь Шлег.

Аляксандр Карпавіч Шлег нарадзіўся 15 кастрычніка 1936 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыўшы рамеснае вучылішча ў Навагрудку ў 1953 годзе, працаваў слесарам, электразваршчыкам трэста "Альмецьеўнафтабуд", пазней — у гандлёвым флоце качагарам, машыністам. Служыў на Балтыйскім ваенна-марскім флоце (1954—1958).

Пасля дэмабілізацыі працаваў у ляхавіцкай раённай газеце "Савецкі патрыёт". У 1965 годзе скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Адначасова з вучобай ва універсітэце быў карэспандэнтам газеты "Савецкі патрыёт". У 1965 годзе скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Адначасова з вучобай на універсітэце быў карэспандэнтам газеты "Звязда". Працаваў у выдавецтвах "Беларусь" і "Мастацкая літаратура", у газетах "Літаратура і мастацтва" і "Чырвоная змена", старшым рэдактарам рэспубліканскага праўлення таварыства кнігалюбаў. З 1985 года — рэдактар, затым старшы рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

Першыя публікацыі Алеся Шлега з'явіліся ў газеце Балтыйскага ваеннага флоту "Страж Балтики" і ў часопісе "Маладосць" у 1959 г. Праца ў літаратуры прынесла аўтару вядомасць. Убачылі свет яго кнігі прозы "Трывожная памяць" (1968), "Цыганок" (1971), "Праўда адна" (1974), "Жыло чаканне болю" (1979), "Хлеб на далонях тваіх" (1986) і іншыя.

Алесь Шлег — аўтар сцэнарыяў шэрагу дакументальных фільмаў ("Балтыйцы", "Палескі Марэсьеў", "Мой дом у бядзе", "Ядвіга Іосіфаўна"), а таксама радыёспектакляў "Цыганок" і "Рэха баравое".

Пайшоў з жыцця цікавы пісьменнік, старанны працаўнік, добры таварыш. Светлая памяць аб Алесю Шлегу застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў.

**САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

ДРУК

# З верай у жыцці і ў чалавека

Чарговая кніга "Бібліятэкі школьніка", выпушчаная выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, здавалася б, сабрала пад адной вокладкай розныя творы — раман Кузьмы Чорнага "Зямля" і дакументальную "Аповесць для сябе" Барыса Мікуліча. Раман К. Чорнага першым выданнем выйшаў яшчэ ў 1928 годзе, а "Аповесць пра сябе" нездарма атрымала менавіта такую назву — яна пісалася Б. Мікулічам падчас знаходжання ў зняволенні і ў ссылцы, і аўтар не спадзяваўся пабачыць гэты твор калі-небудзь надрукаваным. Ды і прыйшла "Аповесць..." упершыню да чытача толькі ў 1986—1987 гадах, калі была апублікавана на старонках часопіса "Нёман". Чаму яны разам? І з рамана, і з аповесці паўстае сам час. Час надзвычайных сацыяльных зрухаў, час драматычны, а то і трагедыйны. Прадмовы да абодвух твораў напісаў Міхась Мушынскі — "Зямля — гэта частка чалавечай душы..." і "З верай у жыццё і ў чалавека".

